ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№29
(2535)

17 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

ГУЧАЦЬ ЦЫМБАЛЫ...

## ЗОРКІ ПАСТАЎСКАГА БАЛЮ

Вось і скончыўся першы (з трох запланаваных) тэлефільм аб Другім міжнародным фестывалі "Звіняць цымбалы і гармонік". Скончыўся незабыўным начным пастаўскім балем, на якім гаспадарамі былі ўсе: і госці, і жыхары гэтага гасціннага невялічкага гарадка на паўночным захадзе Беларусі. І зноў яскрава ўзнік у памяці і гэты баль, калі танцавала ўся плошча, і цудоўны феерверк "Агні спадчыны", створаны па матывах першага беларускага феерверкмайстра XVII стагоддзя Казіміра Семяновіча, і шчаслівыя твары ўсіх удзельнікаў свята, якое праходзіла ў Паставах ужо шосты раз. Напярэдзе яшчэ два фільмы, стваральнікі якіх з любоўю і цеплынёй пастараліся расказаць аб фестывалі, яго гаспадарах, яго ўдзельніках, яго зорках. Бо такая падзея ў культурным жыцці Беларусі, безумоўна, заслугоўвае таго, каб застацца ў гісторыі.

Сёлетні фестываль юбілейны, па ліку дзесяты, і два гады, як стаў ён міжнародным. Замежных гасцей прадстаўлялі вядомы фальклорны ансамбль "Русь" з Падмаскоўя, ансамбль народнай музыкі і танца сяла Джурджулешты з Малдавіі, кіраўнік якога, загадчык аддзела культуры раёна, цудоўна грае на скрыпцы і малдаўскім наі. З Літвы прыехаў унікальны калектыў, удзельнікі якога граюць на бандонах — арыгінальных гармоніках мясцовага вырабу, а аснова рэпертуару — аўтэнтычны інструментальны фальклор эрзвілкаскага краю. З Польшчы прыбыла капэла людова г. Бяла-Падляска, а з Украіны — ансамбль народнай музыкі сяла Княждвор Івана-Франкоўскай вобласці, які ўжо не ўпершыню ў тутэйшых мясцінах. Для выступлення гасцей быў адведзены спецыяльны вечар у новым сучасным амфітэатры, які ў мінулым годзе быў пабудаваны ў пастаўскім парку на беразе маляўнічага возера, і тысячы пастаўчан з цікавасцю слухалі незвычайныя народныя інструменты, падпявалі меладычным украінскім і агністым рускім песням, падтанцоўвалі літоўскай польцы і малдаўскаму жоку.

Але сапраўднымі гаспадарамі фэсту былі беларускія цымбалы. Цымбалы гучалі як інструмент акадэмічны, віртуозны, калі гралі на іх артысты Акадэмічнага народнага аркестра Беларусі, што прыехаў у Паставы з выдатным канцэртам, прысвечаным 90-годдзю свайго заснавальніка Іосіфа Жыновіча, найвыдатнейшага цымбаліста сучаснасці. Цымбалы звінелі як інструмент глыбокай даўніны, аўтэнтычны, з дыятанічным строем, калі ён быў у руках 80-гадовага Івана Мацкевіча з вёскі Груздава Пастаўскага раёна і на якім вясковы музыка граў вяселлі з той пары, як сябе помніць. А цяпер і дачка яго грае, і ўнучка. Яны




НА ЗДЫМКУ: прыпевачніца з Мінска Соф'я НАВУМОВІЧ і гарманіст Міхась КАСЦЮКЕВІЧ.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ТОЛЬКІ АГУЛЬНЫМІ НАМАГАННЯМІ
ЎСІХ ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ ДЗЯРЖАЎ МОЖНА
ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ ВЯРТАННЯ КАШТОЎНАСЦЕЙ

## ПАКЛАДЗЕНА ПЕРШАЯ ЦАГЛІНА

**Нарэшце ў Мінску 19—20 чэрвеня адбылася доўгачаканая міжнародная навуковая канферэнцыя "Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей: праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты)" пад эгідай ЮНЕСКА.**

Ёй папярэднічала прэс-канферэнцыя, што адбылася 18 чэрвеня, у якой прынялі ўдзел міністр культуры Беларусі А. Сасноўскі (старшыня аргкамітэта), міністр замежных спраў І. Антановіч, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Беларусі і старшыня грамадскай камісіі "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры прафесар А. Мальдзіс, госці з Украіны, Польшчы і Расіі.

Украіну прадстаўлялі: А. Федарук — доктар мастацтвазнаўства, прафесар, старшыня Нацыянальнай камісіі па пытаннях вяртання на Украіну культурных каштоўнасцей пры Кабінеце Міністраў Украіны; намеснік старшыні гэтай камісіі — В. Урублеўская і В. Акуленка — доктар юрыдычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута дзяржавы і права імя В. Карэцкага Нацыянальнай акадэміі навук Украіны; А. Аляксандрава — намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны.

Польшчу прадстаўляў В. Кавальскі — прафесар Сылёнскага універсітэта (Катовіцэ). З боку Расіі ў канферэнцыі бралі ўдзел М. Нікандраў — супрацоўнік Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, А. Севасцьянаў — кандыдат філалагічных навук, прэзідэнт Лігі абароны нацыянальнай маёмасці, галоўны рэдактар

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ЧАЛАВЕК І ЛЁС

## ДВА БОГУШЫ, ДВА СЫМОНЫ...

З Сымонам Богушам я пазнаёміўся даўно, калі пераехаў жыць з Мінска ў Маладзечна. Было гэта пятнаццаць гадоў назад.

Зайшоў я аднойчы ў гарадскі Дом культуры на выставу прац тутэйшых фотамайстроў, і маю ўвагу прывабілі мастацкія фотакарткі з часоў мінулай Айчыннай вайны. На іх былі адлюстраваны суровыя акопныя будні франтавікоў, ад іх пахла порахам, смерцю... Задуменныя твары салдат перад боем: смутак, адчай і рашучасць. І гераічны парыў — усё разам.

Па зале хадзіў і рабіў тлумачэнні каржакаваты пажылы чалавек з пасівелай галавою. Я прыслухаўся да яго і зразумеў: сам аўтар каменціруе выставу сваіх прац, гісторыю кожнай фотакарткі, нязмушана расказвае наведвальнікам, што ўсю вайну разам з аўтаматам не разлучаўся і з фотаапаратам, здымаў употай ад "асабістаў" усё, што бачыў у баявым жыцці сваіх аднапалчан... Таму і здымкі атрымаліся вельмі набліжанымі да франтавога, акопнага жыцця.

Аднойчы ваенныя контрразведчыкі пранюхалі, што капітан Богуш адпраўляе фотакарткі дамоў, у тыл, палічылі гэта разглашэннем ваеннай тайны і адабралі ў яго фотаапарат, а фотаплёнкі разам з гатовымі карткамі знішчылі. Хацелі нават завесці на яго справу і аддаць Сымона Пятровіча пад трыбунал, але незадачлівы фотааматар адкупіўся ад "асабістаў" двума літрамі спірту.



НА ЗДЫМКУ: бацька і сын, два БОГУШЫ, два Сымоны, знятыя ў Таронта.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Анжэла МАРЧУК, выкладчыца Відзаўскай музычнай школы з Браслаўскага раёна.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПАСЛЯ ЎРАГАНУ

## ТОЛЬКІ К КАСТРЫЧНІКУ

У выніку ўрагану, што пранёсся па рэспубліцы 23—24 чэрвеня, пацярпела 918 населеных пунктаў, загінулі 5 чалавек, траўміравана 51. Разбурана і пашкоджана 9 004 жылыя дамы і 3 037 вытворчых памяшканняў. Акрамя таго, было абястачана 1 248 населеных пунктаў, пашкоджаны лініі энергазабеспячэння і сувязі. Гэтыя ўдакладненыя даныя прывёў на праведзеным 8 ліпеня пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі міністр па надзвычайных сітуацыях Іван Кенік.

Нанесены ўраганам урон без уліку пашкоджаных пасеваў ацэньваецца спецыялістамі ў 810,4 мільярда рублёў. А разам са стыхійнымі бедствамі, што адбыліся ў маі—чэрвені, урон народнай гаспадарцы краіны склаў 895,6 мільярда рублёў.

Па ліквідацыі вынікаў урагану міністэрствамі, аблвыканкомамі і арганізацыямі выканаы значны аб'ём работ. Кожны дзень на аднаўленні разбураных аб'ектаў занята да 20 тысяч чалавек і 1,5 тысячы адзінак тэхнікі. Дзякуючы бесперабойнаму забеспячэнню будматэрыяламі, якія адпускаюцца на гэтыя мэты без папярэдняй аплаты, ужо адноўлена 99,8 працэнта жылых дамоў. Ва ўсе населеныя пункты пададзена электраэнергія.

Разам з тым ёсць яшчэ і шэраг нявырашаных праблем. Галоўныя з іх датычаць забеспячэння дахавымі матэрыяламі. Трэба будзе выканаць і вялікі аб'ём работ па расчыстцы пашкоджаных лясных масіваў. Паводле ацэнак спецыялістаў, у лесе ляжыць каля 1,5 нормы гадавой выпрацоўкі драўніны.

На пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў адзначалася, што першачарговыя работы па ліквідацыі вынікаў стыхіі выкананы ў поўным аб'ёме. Да 1 жніўня плануецца завяршыць аднаўленне гаспадарчых пабудоў. Ачысціць жа лясныя масівы ад пашкоджаных дрэў і падрыхтаваць плошчы для пасадкі новых удасца толькі к кастрычніку.

МІНСКІЯ ТРАКТАРЫ



Высокую ацэнку на буйных міжнародных кірмашах атрымліваюць новыя распрацоўкі мінскіх трактарабудаўнікоў. Залатога медаля ўдастоены навінкі МТЗ на кірмашы ў Плоўдзіве. Трактары новага пакалення Мінскага трактарнага завода экспанаваліся на выставе "Парыжскі салон".

НА ЗДЫМКУ: энерганасычаны трактар МТЗ-1221 з рухавіком магутнасцю 160 конскіх сіл.

АД НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

## 500 ТЫСЯЧ ЛІТАЎ

Не засталася раўнадушнай да бяды, якую прынёс жыхарам нашай рэспублікі страшны ўраган, і бліжэйшая суседняя Беларусі — Літва. Як паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Віктарас Баўбліс, урад яго краіны прыняў спецыяльную пастанову аб аказанні дапамогі жыхарам Брэсцкай і Мінскай абласцей, што пацярпелі ад надзвычайнага стыхійнага бедства. Згодна з гэтым рашэннем, Беларусь атрымае 500 тысяч літаў.

МЕРКАВАННЕ ПАСЛА

## ПОЯС ДОБРАСУСЕДСТВА

Пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч спадзяецца, што маючая адбыцца ў верасні ў Вільнюсе сустрэча кіраўнікоў васьмі дзяржаў, у тым ліку і Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, дапаможа палепшыць узаемаразуменне бакоў.

"За апошні час сувязі паміж Літвой і Беларуссю на вышэйшым узроўні крыху прытармазіліся. Думаю, гэта адбылося ў выніку адносін да нас некаторых еўрапейскіх структур, куды Літва імкнецца ўступіць і якія не заўсёды разумеюць унутраныя праблемы Беларусі. Аднак я глыбока ўпэўнены, што будучыня нашых сувязей мае перспектывы", — сказаў дыпламат у інтэрв'ю газеце "Рэха Літвы", прысвечаным Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Пасол падкрэсліў, што, праводзячы шматвектарную, збалансаваную і прагматычную палітыку, Беларусь выступае за інтэграцыю ў Еўропу і стварэнне пояса добрасуседства, адным са звёнаў якога з'яўляецца Літва.

ШАГАЛАЎСКІЯ ДНІ



Чатыры дні горад над Дзвіной — Віцебск прымаў удзельнікаў і гасцей VII міжнародных Шагалаўскіх дзён, прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння мастака. Гэтаму папярэднічаў II міжнародны Шагалаўскі пленэр, у якім прынялі ўдзел мастакі з Расіі, Літвы, Латвіі, Германіі, Швейцарыі, Грэцыі і іншых краін.

У рамках юбілейных мерапрыемстваў прайшлі VII міжнародныя Шагалаўскія чытанні, з дакладам на якіх выступілі мастацтвазнаўцы, гісторыкі і музейныя работнікі з Германіі, Францыі, Расіі, ЗША і Беларусі. У выставачных залах абласнога цэнтра і ў АРТ-цэнтры М. Шагала адкрыліся выставы ўдзельнікаў міжнароднага Шагалаўскага пленэра, а таксама выставы віцебскіх мастакоў "Я — з Віцебска" і выстава літаграфіі Марка Шагала.

Незабыўным для віцьблян і прыхільнікаў творчасці Марка Шагала стаў дзень 6 ліпеня, калі на вуліцы Пакроўскай урачыста адкрыўся адрэстаўраваны Дом-музей М. Шагала. Гэта было сапраўднае свята.

НА ЗДЫМКУ: гаспадар галерэі графікі М. Шагала ў г. Майлен Гюнтэр КАМАЦКІ, член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (Швейцарыя) Моніка БАНЬКОЎСКІ і віцебскі гісторык Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.

*"...Хаця ў апошніх праграмах "Базараў-94, -95, -96" было пазначана: Дзень Беларусі, Дзень Украіны, Дзень Расіі, а нашы артысты прысутнічаюць у канцэртах адкрыцця і закрыцця фестывалю, асабіста мне не хапае больш важкай прысутнасці на нашай зямлі беларускай кампазітарскай школы, беларускай паэзіі. Не хапае ўсё той жа польскай песні, якую наступныя арганізатары "Славянскага базару" моцна падзабылі. Мне, напрыклад, незразумела, чаму крайне рэдка ўспамінаюць пра вялікага песенніка — Марка Фрадкіна, які нарадзіўся ў Віцебску.*

*І сёння, каб унесці нейкія свае прапановы наконт правядзення фестывалю, я павінен шукаць адказнага чалавека недзе ў Маскве. Чаму? Гаспадары мы на "Славянскім базары" ці не?*

*І яшчэ. Галоўныя "здарэнні" фестывалю ўсё больш звязаны з грашыма, а не з творчасцю. Я разумею, што без фінансавага забеспячэння фестываль не адбудзецца. Але ўсё ж...*

*(З інтэрв'ю кампазітара Ігара ЛУЧАНКА газеце "Советская Белоруссия").*

БАЧАЦЬ КРУЦЯЛЯ

## ПУЦЁЎКА Ў САНАТОРЫЙ ВІЗУ НЕ ЗАМЕНІЦЬ

Грамадзянам Беларусі, што едуць у Літву для лячэння, цяпер недастаткова мець толькі пуцёўкі ў літоўскія санаторыі — яны павінны будуць набываць і візы.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, з 7 ліпеня пуцёўкі ў лячэбныя могуць толькі дапамагчы пры атрыманні візы, але не замяніць яе наяўнасць у пашпарце. Адзінае выключэнне зроблена для асоб, што маюць пуцёўкі ў санаторый "Беларусь", які знаходзіцца ў Друскініках.

Такім чынам літоўскі бок хоча пазбегнуць сітуацыі, калі многія жыхары нашай краіны, купіўшы пуцёўку ў санаторый, ехалі не лячыцца, а набываць аўтамабіль. Літоўскі бок сцвярджае, што толькі ў мінулым годзе ў рэспубліку прыязджалі 25 тысяч грамадзян Беларусі з пуцёўкамі, аднак санаторнае лячэнне прайшлі крыху больш за тысячу чалавек. Астатнія такім чынам зэканомілі па 20 амерыканскіх долараў на візе, а літоўская казна недатрымала ў выніку амаль паўмільёна долараў.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ДАПАМОГА З ЯПОНІІ

Пасольства Японіі прыняло рашэнне аказаць дапамогу насельніцтву Беларусі, якое пацярпела ў час урагану.

У бліжэйшы час у пацярпеўшыя раёны будзе адпраўлены груз вагой 1 тона — медыкаменты, прызначаныя для аказання тэрміновай медыцынскай дапамогі. Як сцвярджаюць супрацоўнікі пасольства, гэтай колькасці дастаткова, каб арганізаваць экстраннае медыцынскае абслугоўванне 10 000 грамадзян на працягу трох месяцаў.

ГАЗАПРАВОД

## ЯМАЛ — ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА

Завершаны зварачна-мантажныя работы на беларускім участку будаўніцтва газапровода "Ямал — Заходняя Еўропа" ад горада Нясвіж да мяжы з Польшчай, пачатага ў кастрычніку 1996 года.

Нітка газапровода працягласцю 209 кіламетраў ізалявана і ўкладзена ў зямлю.

Сістэма магістральных газаправодаў Ямал — Заходняя Еўропа, дзве ніткі якой пройдуць праз тэрыторыю Беларусі і Польшчы ў Германію, пасля ўводу ў строй дазволіць ўдвая павялічыць транзіт расійскага газу ў Еўропу.

Агульная працягласць газапровода ад паўвострава Ямал да ўсходняй граніцы Германіі складзе больш за 4 107 кіламетраў.

ДРУГОЕ СТАГОДДЗЕ ЖЫЦЦЯ



Марыі ТРЫГУБЕНКА споўнілася сто гадоў. Спрадвеку сельскі жыхар, цяпер у сваё сталыя гады яна жыве ў дачкі Аўгусціны ў Салігорску.

Як усе пажылыя людзі, Марыя Фёдараўна рада новаму субяседніку і сустрэла карэспандэнта ветліва. І раптам прамовіла: "Вось гляджу ў акно, пара на дварэ летняя — самая для работы напружаная, а народ гуляе па вуліцах. Нядобра гэта: мала людзі працуюць..."

Вядома, даведаўшыся пра цяжкі і нялёгкі жыццёвы шлях Марыі Фёдараўны, нельга не згадзіцца, што цяпер людзі працуюць не так цяжка, як у гады яе маладосці. Але сваё даўгалецце Марыя Фёдараўна тлумачыць яшчэ і тым, што ў яе родзе многія дажывалі да 90—95 гадоў, а яе дзядуля пражыў усе 115 гадоў! "І я буду столькі жыць", — упэўнена сказала доўгажыхарка.

ДОБРУШСКІ ФАРФОР



Больш за 150 узораў розных набораў чайнага, кафейнага, сталовага посуду распрацавана на Добрушскім фарфоравым заводзе. І палова ўжо вырабляецца. А ў магазінах добрушскі фарфоравы посуд карыстаецца нязменным попытам.

НА ЗДЫМКУ: у кабінеце ўзораў Добрушскага фарфоравага завода.

З БЕЛАСТОКА

## БЕЛАРУСКАМОЎНЫ КЛАС

У Беластоцкім ваяводстве Рэспублікі Польшча пражывае вялікая колькасць этнічных беларусаў. Для задавальнення іх патрэб у сферы нацыянальнай адукацыі маюцца два агульнаадукацыйныя ліцэі.

Вывучэнне беларускай мовы ажыццяўляецца там факультатыўна ці ў спецыяльных гуртках. Але ўсе яны знаходзяцца, як кажуць, у правінцыі. А вось у самім Беластоку ні ліцэяў, ні школ з выкладаннем беларускай мовы пакуль што не было. Такая традыцыя ў новым навучальным годзе парушыцца: як паведаміў Генеральны консул Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Слямнёў, у адным з першых класаў школы № 4 пачнецца вывучэнне беларускай мовы.

## Васіль ЛЯВОНАЎ:

# «СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА — ДОНАР ЭКАНОМІКІ»

### З МІНІСТРАМ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ПРАДУКТАЎ ХАРЧАВАННЯ ВАСІЛЁМ ЛЯВОНАВЫМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ ІНТЭРФАКСА

***— Васіль Севасцьянавіч! Як вы расцэньваеце сітуацыю, што склалася цяпер у аграпрамысловым комплексе рэспублікі! Наколькі блізка да рэальнага выканання падпісанага кіраўніком дзяржавы ў пачатку бягучага года ўказа аб перспектывах эканамічнага развіцця, у якім, як вядома, прадугледжваецца павелічэнне валавой вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі на 6—7 працэнтаў!***

— Адказ мой не варта расцэньваць як рапарт "аб датэрміновым выкананні і перавыкананні". Не той час і не той выпадак. Аднак у цяперашніх умовах эканамічнай нестабільнасці аграрыі маюць права заявіць, што ў дынаміцы развіцця большасці галін Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання ўсё часцей пачалі праяўляцца станоўчыя тэндэнцыі.

У сельскай гаспадарцы аб'ём валавой прадукцыі ў гаспадарках усіх катэгорый узрос з пачатку года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага амаль на 6 працэнтаў, а ў грамадскім сектары — на 11,5. У маі мы выйшлі на ўзровень мая 1996 года па рэалізацыі асноўных відаў жывёлы і птушкі. У гэтай сітуацыі ёсць усе падставы меркаваць, што ў бліжэйшыя месяцы будзе таксама ліквідавана істотнае адставанне па рэалізацыі гэтай прадукцыі ў памеры 2,6 тысячы тон. Падставу так лічыць даюць тэмпы росту валавога прыбаўлення ў вазе, якія з пачатку года дасягнулі 15 працэнтаў. На 6 працэнтаў больш, чым у мінулым годзе, атрымана калгасамі і саўгасамі малака і яек.

Амаль на 18 працэнтаў узрос у супастаўных цэнах з пачатку года аб'ём таварнай прадукцыі, якая выпрабляецца прадпрыемствамі галіновай прамысловасці. У сувязі з гэтым на многіх масласыраробных і малочных заводах уведзены дадатковыя рабочыя месцы. Пры гэтым амаль увесь прырост аб'ёму вытворчасці атрыманы за кошт росту прадукцыйнасці працы. З 26 назваў асноўных відаў прадукцыі, якія ўлічваюцца ў аператыўнай міністэрскай справаздачнасці, рост аб'ёмаў адзначаны па 23 назвах прадукцыі. Больш чым на 20 працэнтаў узрасла ў рэспубліцы вытворчасць сыроў тлустых, масла, харчовай солі. У 1,5—2 разы выраслі аб'ёмы вытворчасці ўсемагчымых круп, маргарыну, кандытарскіх вырабаў, цукру, мясных кансерваў.

У той жа час амаль 20 працэнтаў прадпрыемстваў не змаглі ў перыяд з пачатку года ліквідаваць адставанне па аб'ёму вытворчасці таварнай прадукцыі ў супастаўных цэнах у параўнанні з аналагічным перыядам 1996 года. Больш як палова гэтых прадпрыемстваў — у мясной галіне, 40 працэнтаў — у рыбнай.

Не лепшым чынам ідуць справы з выплатай заработнай платы. Запазычанасць па зарплаце на сярэдзіну чэрвеня складала на прадпрыемствах Мінсельгаспрадукта 193,5 мільярда рублёў. З іх у сельскай гаспадарцы — 189,1 мільярда. Спадзяёмся, што становішча спраў па гэтаму пытанню можна будзе паправіць у бліжэйшы час за кошт павелічэння аб'ёмаў вытворчасці малака і паступлення на рахунак гаспадарак выручкі ад яго рэалізацыі.

***— У чым вы бачыце прычыны няпростага эканамічнага становішча, якое склалася ў сельскагаспадарчым сектары!***

— Перш за ўсё ў праліках, дапушчаных на макраўзроўні. З-за цяпер існуючых складанасцей з той жа канвертацыяй валюты мы трапілі ў даволі далікатную сітуацыю.

Возьмем у якасці прыкладу хлеб. Міністэрства эканомікі вызначыла, што кошт белага хлеба не павінен, умоўна кажучы, перавышаць 6—7 тысяч беларускіх рублёў. Разлік праводзіўся з такога ж чыста ўмоўнага курсу 27 тысяч рублёў за адзін долар ЗША. Праз некалькі месяцаў цана на хлеб і афіцыйны курс валюты засталіся ранейшымі, аднак перавесці рублі, атрыманыя ад рэалізацыі хлеба, у валюту для набыцця новай пшаніцы за межамі рэспублікі няма магчымасці. Рэальны валютны курс намнога вышэйшы. У выніку селянін нясе страты, якія не могуць пакрыць тыя 3 трыльёны рублёў, што ўрад накіроўвае ў аграпрамысловы комплекс у якасці кампенсацыі.

Не трэба вяскоўцам спадзявацца, што з утварэннем беларуска-расійскага Саюза і адзінай мытнай тэрыторыі сітуацыя імгненна выправіцца. Нават пры размове аб славянскім адзінстве не варта спадзявацца, што нехта паступіцца сваімі эканамічнымі інтарэсамі. У Расіі альбо на Украіне мы нікога не прымусім аддаць перавагу сельскагаспадарчай прадукцыі з Беларусі ў тым выпадку, калі немцы ці галандцы змогуць прапанаваць аналагічную па якасці прадукцыю па больш нізкай цане. Апошняе слова будзе за прадукцыяй канкурэнтаздольнай.

***— Вы лічыце, што на дзяржаўным узроўні адносіны да сельскага працаўніка павінны быць іншымі!***

— Сітуацыю, якая склалася ў адносінах да сельскай гаспадаркі, можна расцаніць як дыскрымінацыйную. І гэта прасочваецца не толькі ў цэнавай палітыцы. Ва ўзнікшай сітуацыі дзяржава ў аднабаковым парадку дыктуе цэны на асноўныя прадукты харчавання, іншую сельскагаспадарчую прадукцыю, і ў той жа час ніхто не дыктуе цэны на прадукцыю трактарнага ці аўтамабільнага заводаў, без якой вяскоўцам не абысціся.

Перакананы: калі будаваць рыначныя ўмовы гаспадарання, то правілы гульні павінны быць для ўсіх аднолькавыя. На справе ж атрымліваецца іншая карціна. І прыкладаў тут мноства. Адзін з іх — метад вырашэння праблем камунікацыі ў вёсцы. Параўнайце спробы дзяржавы тэлефанізаваць вёску і горад. Сітуацыя, у якую трапляюць у гэтым пытанні вяскоўцы, добра характарызуе кіраўніцтва Міністэрства прамысловасці, якое заяўляе аб гатоўнасці аснасціць жыхароў сельскіх раёнаў малаякаснай айчыннай камутацыйнай апаратурай і ў той жа час гараджанам прапануе паставіць абсталяванне замежных вытворцаў. Гэта акалічнасць была вынесена на абмеркаванне ў ходзе нядаўна праведзенага пасяджэння прэзідыума Аграсаюза, які разглядаў пытанне аб перабоях у абслугоўванні сельскіх жыхароў тэлефоннай сувяззю.

***— Якім бачыцца вам далейшы лёс калгасаў, бо ў новай рэдакцыі Канстытуцыі, прынятай на ўсенародным рэферэндуме, калектыўнай формы ўласнасці не прадугледжваецца!***

— Сапраўды, у прынятай на рэферэндуме новай рэдакцыі Асноўнага Закона ўлічаны дзве формы ўласнасці: дзяржаўная і прыватная. Тым не менш гэта зусім не азначае вынясення смяротнага прыгавору калгасам, аб чым пайшлі ў апошні час гаварыць праціўнікі калектыўнай формы гаспадарання. Калгас па сваёй сутнасці непераможны.

Савет калгасаў рэспублікі працуе цяпер над тыпавым праектам статута гаспадарак, якія пасля неабходнай юрыдычнай рэгістрацыі будуць прадстаўляць адну калектыўную гаспадарку як суму прыватных. І ў гэтым выпадку не варта біць у званы, што прыватнікі расцягнуць плугі, бароны і трактары па сваіх падвор'ях. Сутнасць у іншым: ніхто дзяліць адзіную паўнацэнную гаспадарку на кавалкі не будзе. Доля кожнага вяскоўца будзе вызначана ў вартасным выражэнні. Адпрацавалі вы ў гаспадарцы пэўную колькасць гадоў, ведайце: вы ўладальнік некаторай долі ўласнасці, якая вылічваецца ў вартасным выражэнні. Сваю долю вы заўсёды зможаце падарыць, завяшчаць, перадаць іншай асобе ці проста атрымліваць належныя штогадовыя дывідэнды. Па такому прынцыпу ў рэспубліцы ўжо дзейнічаюць каля 70 гаспадарак.

## МАГІЛЁЎСКІЯ МІКРАХІРУРГІ





**Каля васьмісот аперацый па вылечванню глаўкомы, катаракты і іншых хвароб вачэй праводзяць штогод урачы-мікрахірургі Магілёўскай абласной бальніцы. Кансультацыі для іх рэгулярна — раз у два месяцы — праводзяць спецыялісты Калужскага філіяла вядомага фёдараўскага інстытута мікрахірургіі вока.**

**НА ЗДЫМКАХ: біямікраскапічнае даследаванне вока; аперацыя па выдаленню катаракты пад мікраскопам.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

### ТЭМПЫ РОСТУ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН АМАЛЬ У 2,5 РАЗА ВЫШЭЙШЫЯ ЗА МІНУЛАГОДНІЯ

# ЧАРГОВЫ СКАЧОК ІНФЛЯЦЫІ

Міністэрства статыстыкі афіцыйна выдала індэкс інфляцыі за май — 1,05, ці роўна 5 працэнтаў. Для параўнання адзначым, што ў красавіку гэты паказчык склаў 4,3 працэнта, у сакавіку — 2,3 працэнта. Гэта значыць пасля кароткачасовага спаду тэмпу росту спажывецкіх цэн (у сакавіку) яны зноў рванулі ўгару.

Таксама для параўнання адзначым, што ў студзені — маі бягучага года сукупная інфляцыя ў адносінах да снежня мінулага года склала ўжо 35,2 працэнта, у той час як аналагічны паказчык у мінулым годзе быў усяго толькі 14,4 працэнта. Адсюль можна зрабіць нескладаны вывад, што сёлета тэмпы інфляцыі амаль у 2,5 раза вышэйшыя за леташнія і ўжо больш чым на 8 працэнтаў перавысілі афіцыйны прагноз на ўвесь бягучы год.

У чым жа прычыны?

Як гэта ні здасца дзіўным, але адказ павінен насіць, відавочна, таксама сімвалічны характар: прагноз не мог быць дакладным, паколькі разлічваўся пад уздзеяннем "незямной" сілы. У якасці апошняй разумеюцца некампетэнтнасць і непрафесіяналізм тых, хто мае рэальную ўладу пры прыняцці рашэнняў, звязаных з эканомікай.

Сутнасць гэтага працэсу зводзіцца да таго, што робяцца пастаянныя спробы абысці элементарныя эканамічныя законы і перад грамадствам ставяцца мэты, далёкія ад рэальнай рэчаіснасці.

Задоўга да пачатку бягучага года было відавочна, што штучнае замарожванне цэн і абменнага курсу беларускага рубля пры пастаяннай крэдытнай эмісіі для фінансавання дзяржаўных праграм фарміруе пагражальны інфляцыйны і дэвальвацыйны патэнцыялы і што працягваць такую практыку бясконца не ўдасца, бо гэта, па-першае, зніжае да крытычнага ўзроўню рэнтабельнасць айчынных прадпрыемстваў (8—9 працэнтаў за мінулы год) і, па-другое, стымулюе нарастанне дэфіцытаў гандлёвага і плацежнага балансаў.

Толькі за 1995—1996 гады рублёвая грашовая маса ў краіне павялічылася прыкладна ў 6,5 раза, цэны выраслі ў 3,5 раза, а абменны курс беларускага рубля — усяго толькі ў 1,5 раза. Улічваючы, што развіццё грашовага рынку, здольнае адцягваць свабодныя грашовыя рэсурсы на чыста спекулятыўныя аперацыі, практычна спынілася, а працэнтныя стаўкі рублёвага рынку ўжо з лістапада мінулага года ўвайшлі ў кола адмоўных велічынь і прырост тэрміновых дэпазітаў насельніцтва і прадпрыемстваў стаў мінімальным, трэба было чакаць фарміравання значнай лішняй грашовай масы ў эканоміцы.

Эфект ад гэтага эканамічнага феномена, яго паводзіны прагназіраваліся незалежнымі эканамістамі зусім адназначна: па-першае, альбо рост цэн, альбо татальнае банкруцтва беларускіх прадпрыемстваў і, па-другое, альбо шырокамаштабная дэвальвацыя беларускага рубля, альбо згортванне беларускага экспарту да велічынь, якія не забяспечаць нават мінімуму паступленняў валюты для аплаты крытычнага імпарту.

На жаль, неабходных высноў зроблена не было, і, больш таго, выканаўчая ўлада, атрымаўшы па выніках рэферэндуму ўзаконены кантроль над дзейнасцю Нацбанка, стала зусім ужо вольна абыходзіцца з "друкарскім станком". І хаця тэмп прыросту рублёвай грашовай масы за 5 месяцаў 1997 года (28,7 працэнта) ненамнога вышэйшы за аналагічны паказчык мінулага года (27,1 працэнта), але з улікам прыведзеных вышэй абставін гэтага аказалася дастаткова, каб тэмпы інфляцыі сёлета сталі значна больш высокімі.

Акрамя таго, у дынаміцы месячнага прыросту рублёвай грашовай масы і спажывецкіх цэн ёсць яшчэ адна трывожная тэндэнцыя. Упершыню за мінулыя гады індэкс росту цэн павялічваецца да сярэдзіны года — перыяду, калі эканамічная актыўнасць звычайна зніжаецца, змяншаюцца выдаткі, звязаныя са спажываннем цяпла, і цэны маюць схільнасць спыняць свой рост ранейшымі тэмпамі (у маі мінулага года інфляцыя склала 0,6 працэнта).

Аднак улады па-ранейшаму ўпэўнены, што іх эканамічная палітыка адзіна правільная і што пераадоленне такіх "дробязей", як інфляцыя і ўцёкі капіталу з краіны, — справа часу. Маўляў, варта толькі яшчэ больш напружыць "друкарскі станок", дабавіўшы эмісійных грошай у эканоміку, як усё стабілізуецца. Адсюль можна зрабіць несуцяшальны вывад, што цяперашняя ўспышка інфляцыі — не кароткачасовая з'ява, а пачатак даволі працяглага чарговага вітка інфляцыйнай спіралі, якая выходзіць за межы леташняй. Гадавая ж інфляцыя можа дасягнуць узроўню не менш 80—90 працэнтаў.

І гэта ў лепшым выпадку.

("Белорусский рынок").

Юрый АКУДОВІЧ — як кажуць, турыст па прызванню і па прафесіі. Скончыў Беларускі інстытут фізкультуры, пасля чаго працаваў настаўнікам у вясковай школе ў Гродзенскай вобласці, трэнерам па турызму на Мінскім падшыпнікавым заводзе, у інстытуце народнай гаспадаркі, у дзіцячым турыстычным цэнтры. За гэты час выканаў нарматывы майстра спорту па турызму, неаднойчы станавіўся пераможцай і прызёрам турыстычных злётаў і чэмпіянатаў, пабываў практычна ва ўсіх значных горных раёнах былога СССР — ад Чукоткі да Карпат, ад Паўночнага Урала да Паміра. Але па сведчанні самога Юрыя Акудовіча, для яго няма ў свеце месца, прыгажэйшага за нарачанскі край. Дваццаць год штолета бывае ён на берагах славутага возера. Здавалася б, схадзіў усё наваколле ўздоўж і ўпоперак. Аднак лічыць: гэтыя



мясціны хаваюць яшчэ не адну хвалюючую таямніцу з айчыннай гісторыі і культуры, ну а захапляцца чароўнасцю і прыгажосцю Нарачы можна бясконца.

Сёння мы пачынаем друкаваць нарачанскія падарожныя нататкі Юрыя Акудовіча. З дапамогай іх аўтар запрашае чытачоў зрабіць сапраўдную вандроўку вакол Нарачы, зазірнуць у яе самыя запаветныя куточкі.

*НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Мне пашанцавала. Вось ужо больш як пятнаццаць гадоў я бываю ў нарачанскім краі і кожны раз раблю гэта з задавальненнем.

Той, хто хоць аднойчы пабываў у гэтых мясцінах, не можа не палюбіць нарачанскую прыроду: прыгажэйшай за яе няма ў свеце.

Ступіўшы на бераг Нарачы, зачаравана стаіш ля вады, углядаешся ў далёкія берагі, а ўяўленне малюе карціны з легенды, расказанай экскурсаводам пра тыя далёкія часіны, калі на беразе вялікага возера з крыштальна празрыстай вадой жыла дзяўчына Нара. На захадзе сонца любіла яна сядзець ля вады на пясчаным беразе і спяваць, падыгрываючы сабе на гуслях.

Аднойчы спевы Нары пачуў пан, стары ўдавец, і захацелася яму ўзяць дзяўчыну ў жонкі. Але ў Нары быў жаніх, і яна адмовілася. Тады слугі забілі хлопца, а дзяўчыну прывялі ў панскія харомы. У ноч перад вянчаннем Нара падпаліла палац і паспрабавала ўцячы. На беразе яе дагнала ахова. Калі Нара зразумела, што ад пагоні нікуды не дзецца, кінулася ў ваду.

З таго часу і завуць возера яе імем — Нара, або Нарач.

* * *

Цудоўны нарачанскі край у любую пару года: зімой — пышнымі снягамі, якія ўпрыгожваюць сосны і елкі ў серабрыстыя ўборы; вясной — буйствам зеляніны і мноствам вадаплаўнай і баравой птушкі; восенню — вясёлкавай пярэстасцю лесу і яго дарамі. Але, безумоўна, найбольш прывабны час для адпачынку на Нарачы — лета. У сонечныя, пагодлівыя дні, калі наваколле заліваецца праменістым святлом, а паветра поўніцца вясёлымі галасамі, смехам, пастаяльцы гэтых мясцін гавораць: "В Сочи ехать далеко и глупо, когда рядом Купа" (старая назва курортнага пасёлка Нарач).

У адзін з такіх сонечных ліпеньскіх дзён наладжваецца святочнае гулянне ў гонар цара воднай стыхіі — Нептуна. Гэта самы жаданы і самы вясёлы дзень на Нарачы. Да прызначанага часу адпачываючыя высыпаюць на бераг і чакаюць з'яўлення азёрнага валадара. Далей пачынаецца шумнае прадстаўленне. У гульнях, жартах, карагодах прымаюць удзел усе прысутныя. Перад закрыццём свята світа Нептуна ловіць разявак і зацягвае ў возера. Тыя, каму пашчасціла пазбегнуць гэтага, са смехам разбягаюцца па лесе.

* * *

Быць на Нарачы і не ўдзельнічаць у рыбалцы, хаця б у якасці гледача, немагчыма. У возеры жывуць дваццаць два віды рыб. Найбольш буйная — шчупак. Пры мне рыбакі вылавілі шчупака вагой дзевяць кілаграмаў. І гэта не рэкорд. Мясцовыя жыхары расказваюць, што трапляюцца экземпляры і дваццаць кілаграмаў. Але ад выгляду той рыбіны, што давялося пабачыць, жахаешся, асабліва калі яна адкрывае пашчу і дэманструе загнутыя ўсярэдзіну доўгія і вострыя зубы.

Найбольш цікавы і загадкавы насельнік Нарачы — вугор. З дагістарычных часоў людзі спрабавалі даведацца пра яго паходжанне, бо ніхто не бачыў, як ён размнажаецца. З'яўляліся самыя неверагодныя меркаванні. Напрыклад, Арыстоцель лічыў, што вугор выводзіцца з глею. Толькі ў XVIII стагоддзі вучоныя змаглі вызначыць самцоў і самак і тое, што яны размнажаюцца, як усе віды рыб.

**Юрый АКУДОВІЧ.**

(Працяг будзе).

# ДВА БОГУШЫ, ДВА СЫМОНЫ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Калі яго полк ступіў на польскую зямлю, Богуш дастаў новы, трафейны фотаапарат і зноў усё здымаў і здымаў... Фотакарткі беражліва захоўваў, пасылаў дамоў. Іх сабралася шмат. І вось цяпер былы франтавік экспанаваў свае ваенныя фатаграфіі на выставе, прысвечанай саракагоддзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны...

Жыццёвы лёс Сымона Пятровіча я адкрываў для сябе паступова, даведаўся пра здзіўляючыя факты яго біяграфіі.

Нарадзіўся ён у 1923 годзе ў Рэчыцы. Грымнула вайна, і дзевяцікласнік, якому не было яшчэ і васемнаццаці, пабег у ваенкамат, папрасіўся на фронт, але яму адмовілі. Пакідалі горад пад націскам варожых войскаў чырвонаармейцы. Вось-вось Рэчыцу павінны заняць фашысты. Ён не хацеў заставацца пад акупацыяй, развітаўся з бацькам і маці, закінуў за плечы торбу і далучыўся да ваеннай калоны, якая пакідала горад, адступаючы на ўсход. Развітаўся, як потым даведаўся, назаўсёды: бацька і маці загінулі ў час бамбёжкі горада фашысцкімі самалётамі. Загінулі на другі дзень, калі Сымон пакінуў горад. Пад абломкамі роднага дома, няйнакш, загінуў бы тады і ён, калі б не пакінуў Рэчыцу.

Пры адступленні пачаліся баі, і хутка падлетак быў залічаны ў парадзелы састаў стралковага палка, разам з бывалымі салдатамі адбіваў атакі фашыстаў. Потым пачаліся акружэнні, прарывы. З палка ў канцы лета ў жывых засталася жменька салдат. У іх ліку і Сымон. Бітва за Маскву... Сваё васемнаццацігоддзе Сымон сустрэў ужо абстраляным і вопытным салдатам. Калі ад сцен сталіцы савецкія войскі адагналі фашыстаў і наступіла франтавое зацішша, Богуша раптам выклікалі ў штаб дывізіі і неспадзявана ўручылі загад-прадпісанне ехаць вучыцца ў Ташкенцкае ваеннае вучылішча. У гэтым горадзе ён пачаў пазаштатна супрацоўнічаць у газеце "Камсамолец Узбекістана", навучыўся здымаць і змяшчаў фотарэпартажы з жыцця ваенных курсантаў.

Калі Сымон Богуш, закончыўшы вучобу, адпраўляўся на фронт, у рэдакцыі яму падарылі на памяць фотаапарат. З таго часу ён і не пакідае займацца любімай справай — фатаграфіяй.

У маі 1942 года лейтэнант Богуш прымае камандаванне ўзводам пад Ржэвам у самы разгар кровапралітных баёў. Закончыў вайну ў Ростоку ў званні гвардыі капітана. За фарсіраванне Одэра быў узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга, за ўзяцце Варшавы — польскім Грунвальдскім крыжам.

Закончыліся баі. І вайна. Ён быў малады і застаўся жывы! Што такое чатыры гады вайны, калі наперадзе — усё жыццё? Часць, у якой служыў Сымон, раскватаравалі ў Шчэціне. Тут ён і пазнаёміўся з чароўнай полькаю Бажэнай Чарвінскай. І закахаўся. І быў пакаханы. Пра іх раман ведаў падпалкоўнік Барышаў, сябра і начальнік Сымона. Ён і паведаміў Богушу, што ў штаб прыйшоў загад, які забараняе савецкім грамадзянам шлюбы з іншаземцамі. "Калі хочаш ажаніцца з Бажэнай, рабі гэта неадкладна, пакуль не аб'явілі аб загадзе", — сказаў ён Сымону.

У той жа дзень — 9 студзеня 1946 года — Сымон і Бажэна распісаліся. Яна працавала ў муніцыпалітэце сакратаркаю, дзе рэгістраваліся шлюбы, таму ўсе фармальнасці ўладкавалі проста і лёгка. У кастрычніку Сымон дэмабілізаваўся і пераехаў у Берлін, дзе яму паабяцалі работу ў ваеннай газеце. І вось радасны дзень — 14 кастрычніка Бажэна нарадзіла сына. Назвалі яго, як і бацьку, Сымонам. Усё складвалася як нельга лепш. Сымон наладзіў гулянку для сяброў, усе віншавалі шчаслівага бацьку і жадалі... А ноччу яго разбудзіў грукат у дзверы. Па яго прыйшоў следчы асобага аддзела з двума аўтаматчыкамі. Потым былі допыты ў ваеннай турме і прыгавор трыбунала — 10 гадоў пазбаўлення волі. Ён абвінавачваўся ў спробе здрадзіць Радзіме: быццам бы хацеў уцячы ў Заходнюю зону. Хоць адзінай віною было толькі тое, што пакахаў чужаземку і з ёю ажаніўся.

Потым пачалося жыццё "зэка". Былы гвардыі капітан, былы ардэнаносец кожную раніцу з такімі ж былымі, як ён, у калоне ішоў у шахту, увесь дзень махаў кіркаю пад наглядам канваіраў, а ўвечары ў той жа калоне і з тымі ж канваірамі вяртаўся ў свой барак.

— Як жа вы гэта вытрымалі ўсё? — пытаюся ў яго.

— Не ведаю, — адказаў Сымон Пятровіч. — А калі шчыра сказаць, дык выручала франтавая загартоўка. Я ваяваў у пяхоце. Самы халодны барак — печ у параўнанні з зімовым акопам. Вось дзе сапраўдная халадэча... Барані Бог!

Але калі фізічныя нягоды ён сяк-так вытрымліваў, дык вось сум мучыў душу бязлітасна. Ён увесь час думаў пра жонку і сына: дзе яны, што з імі сталася? Вярнулася Бажэна да бацькоў ці засталася ў Берліне? А можа і яе арыштавалі?

У маі 1955 года яго вызвалілі, выпусцілі на свабоду. Толькі адзін быў блізкі чалавек, да якога ён мог паехаць, — сястра Вольга. Яна жыла ў Маладзечне. Па дарозе ў гэты горад Сымон з Масквы адправіў тэлеграму бацькам Бажэны, паведаміў, што свабодны, што хоча знайсці жонку і сына. Адказ прыйшоў перад самым Новым годам, але лепш было б, калі б ён наогул не прыходзіў. Пісала цётка Бажэны, што яго жонка загінула два гады назад у аўтамабільнай катастрофе, а хлопчыка бабуля з дзядулем павезлі ў Амерыку, куды пераехалі пасля смерці дачкі. Дзе яны, што з імі, яна не ведала...

Так Сымон другі раз згубіў свайго сына. Але ж слабы вугалёк надзеі працягваў тлець у яго душы: сын усё-такі жывы. А раптам?..

Сымон зноў абзавёўся фотаапаратам: спярша здымаў для мясцовай газеты, а потым, адчуўшы ў сабе прызванне, узяўся за сур'ёзную фатаграфію. А неўзабаве пазнаёміўся з прыгажуняй Тэрэзай і ажаніўся, завёў сям'ю. Пабудаваў на ўскраіне горада прыгожы дом, абсталяваў у ім прасторную фоталабараторыю і поўнасцю аддаўся любімай справе... Стаў адным з лепшых фотамайстроў горада. Яго мастацкія фатаграфіі заўважылі, пачалі друкаваць у часопісах і газетах рэспублікі, нават у замежных выданнях. У 1977 годзе яго запрасілі прыняць удзел у выставе, якая адкрывалася ў польскім горадзе Грудзёндз. Разам з адабранымі здымкамі ён паслаў дырэктару выставы пану Янушу Навацкаму пісьмо, у якім паведаміў, што вельмі рады запрашэнню, бо ў сакавіку 1945-га прымаў удзел у вызваленні горада ад гітлераўцаў. Пісьмо было надрукавана ў мясцовай газеце, і Сымона сустрэлі вельмі радасна і горача. Але нават калі б і не гэтая акалічнасць, яго працы вызначаліся такім высокім майстэрствам і арыгінальнасцю, што самі па сабе карысталіся заслужаным поспехам. Яны адкрывалі перад палякамі блізкую, ды не зусім знаёмую суседку — Рэспубліку Беларусь — яе людзей, прыроду, звычаі. Януш Навацкі тут жа прыняў рашэнне арганізаваць персанальную выставу Сымона Богуша. "Матывы Беларусі" — так называлася яна. Ці думаў майстар, што яны ўваскрэсяць зусім іншыя матывы, якія змоўклі вельмі даўно і, здавалася, назаўсёды?

У канцы студзеня 1979 года Богуш атрымаў з Польшчы пісьмо. Ад Богны Чэрвінскай, той самай цёткі Бажэны, якая паведаміла яму горкую вестку аб гібелі жонкі. Аказваецца, Бажэна не загінула. Яна наогул не трапляла ні ў якую катастрофу. Яна проста выйшла замуж за канадца і паехала з ім за акіян. З сынам, само сабою. Калі Сымон аб'явіўся зноў, цётка, навучаная горкім вопытам, вырашыла не выпрабоўваць лёс. Але мінулі гады, многае змянілася ў свеце. Другімі сталі і Польшча, і Беларусь. Жорсткі век, які скалечыў столькі жыццяў і лёсаў, кануў у мінулае. Лёсу трэба было так скласціся, каб Богна аказалася жыхаркаю Грудзёндза і каб менавіта ў гэтым горадзе экспанаваліся "Матывы Беларусі". Убачыўшы на рэкламным плакаце знаёмае імя і прозвішча, цётка была вельмі здзіўлена, бо вырашыла, што гэта выстава сына Бажэны. Але, наведаўшы экспазіцыю і пазнаёміўшыся з біяграфіяй аўтара, усё зразумела. І напісала пра гэта ў Канаду. Бажэна папрасіла яе звязацца з Сымонам. Сама яна пакуль не адважвалася гэта зрабіць.

Менш за ўсё Сымон быў у крыўдзе на Бажэну. Наадварот, ён заўсёды лічыў, што гэта па яго віне аказалася паламаным яе жыццё. А цяпер, калі даведаўся, што сын знайшоўся, яго сын, яго крывінка, ён гатовы быў маліцца і на Бажэну, і на сваё мастацтва, і на шчаслівы выпадак.

Ён сустрэў сына 14 кастрычніка 1981 года ў Мінскім аэрапорце. У гэты дзень Сымону Богушу-малодшаму споўнілася роўна 35 гадоў. Ён упершыню ўбачыў свайго бацьку. Як і бацька — яго. Дзень нараджэння яны адзначылі ўдваіх у рэстаране аэрапорта. Сымон гаварыў з сынам па-англійску.

— Калі я даведаўся, што сын знайшоўся і што мы цяпер ужо абавязкова сустрэнемся, сказаў сам сабе: мы не можам размаўляць адзін з адным праз перакладчыка, — расказаў мне Сымон Пятровіч. — І вось вывучыў англійскую мову. Я дзеля гэтага, дзеля сына і кітайскую вывучыў бы...

Месяц гасцяваў сын у бацькі. Яны ўдваіх аб'ездзілі ўсю Беларусь, пабывалі на Нарачы, у Белавежскай пушчы, на Браслаўскіх азёрах. Сымон-малодшы, па прафесіі праекціроўшчык мастоў і дарог, аказаўся ў той жа час і заўзятым фотааматарам. "Гены!" — сказаў пра гэта, пасміхаючыся, Сымон-старэйшы. Між іншым, ён мог бы нічога і не гаварыць: досыць убачыць іх побач, каб зразумець, што яны падобныя адзін да аднаго. Толькі малодшы вышэйшы ростам.

Праз год Сымон-бацька паехаў адведаць сына ў Канаду. Тэрэза, цяперашняя яго жонка, праводзячы мужа ў дарогу, наўзрыд заплакала. Загаласіла, як па нябожчыку.

— Ты думаеш, я там застануся? — сумна ўсміхнуўся Сымон. — Не, Тэрэза, гэта немагчыма... Сама ведаеш...

У Таронта яго сустрэла вялікая сям'я: сын, нявестка, настаўніца біялогіі, унучка і ўнук. І яшчэ Бажэна. Я не ведаю, пра што яны гаварылі, што ўспаміналі. Не пытаўся пра гэта ў Сымона Пятровіча. Ды і навошта? Гэта іх вельмі асабістае. Для мяне зразумела толькі адно: лёс ім хоць і ўсміхнуўся перад захадам сонца, але абышоўся з імі жорстка.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

## З ЛІТВЫ

# ВІЛЬНЯ ПАМЯТАЕ СКАРЫНУ

*Прыклад чыстай любові*
*якой не скарылі,*
*даў Скарына...*

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**




За чатыра гады існавання ў Вільні беларускай школы адбылося тры выпускі. Амаль усе выпускнікі паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Літвы і Беларусі. У траўні школе прысвоена імя Францішка Скарыны. Усе гады існавання школа змагалася за гэтае імя. Добрыя вынікі ў вучобе. Вучні ўдзельнічалі ў алімпіядах па беларускай і літоўскай мовах, займалі прызавыя месцы. Некалькі разоў ездзілі ў старажытны Полацк, наладзілі цесныя сувязі з полацкім музеем першадрукара. Часта сустракаюцца з беларускімі дзеячамі Вільні і Віленшчыны. Такія імпрэзы і вандроўкі духоўна ўзбагачаюць, натхняюць на глыбокае вывучэнне нашай багатай спадчыны, культуры, гісторыі. У школе пастаянна дзейнічае выстава кніг Скарыны і пра жыццё і дзейнасць нашага славутага асветніка. Ды і Вільня памятае яго. Шчасце жыць у горадзе, дзе кожны будынак, вулачка — сведкі гісторыі. З першага класа вучні нашай школы пачынаюць вывучаць беларускую гісторыю Віленшчыны.

Травень. Цёплы вясновы дзень. Мы адправіліся на экскурсію "Вільня і Скарына". У цэнтры горада кароткая брукаваная вуліца імя Скарыны. Гэта самая кароткая вуліца ў горадзе, кажуць, што на ёй жывуць самыя добрыя людзі, стаяць самыя цікавыя будынкі, над якімі спляліся галіны старых ліп. Можа, тут вітае дух Скарыны?

Працягваецца наша вандроўка на Троцкую вуліцу. Дамініканскі касцёл. Да яго прымыкае будынак, на якім знак Скарыны — сонца і маладзік. Вуліца Троцкая выходзіць на Вялікую вуліцу, тут на будынку шыльда, якая паведамляе, што ў Вільні ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1522—1525 гадах беларускі асветнік Францішак Скарына выдаў першыя друкаваныя кнігі.

Наш маршрут працягваецца ў бібліятэку Віленскага універсітэта. Ціхія дворыкі, у цені вербаў лаўкі. Тут можна адпачыць, можна пачытаць, а можна ўявіць, што на дварэ XVI стагоддзе. Можа, тут хадзіў, марыў, тварыў Ф. Скарына. Галоўны ўваход. Падымаемся па лесвіцы. Доўгі калідор і бібліятэка. Вялікая прыгожая зала ў стылі барока. Тут захоўваецца арыгінал Бібліі. Добразычлівыя супрацоўнікі бібліятэкі дазволілі патрымаць у руках каштоўную кнігу, дакрануцца да бессмяротнага.

Вярталіся шчаслівыя, поўныя ўражанняў, а можа, сталі крышачку дабрэйшымі. Такія ўрокі гісторыі, літаратуры сталі традыцыйнымі. Яны вучаць галоўнаму — любові да нашай багатай спадчыны, да Бацькаўшчыны. Насіць імя Францішка Скарыны не толькі ганарова, але і вельмі адказна. Будзем імкнуцца, каб у школе панаваў культ кнігі, культ духоўнасці. Для гэтага ёсць усе падставы. На свяце прысутнічаў пісьменнік Уладзімір Ліпскі, які падарыў шмат сваіх кніг.

**Леакадзія МІЛАШ,**
**настаўніца.**

г. Вільня.

# ДЗЯКУЕМ ЗА КУРСЫ!

Міністэрства асветы Беларусі арганізавала курсы для настаўнікаў беларускіх школ замежжа. З'ехаліся настаўнікі з Польшчы (у асноўным з Беласточчыны), Літвы, Латвіі і ўпершыню прыехалі з далёкай Башкірыі. Ва ўсіх гэтых краінах працуюць беларускія школы, ёсць беларускія групы, дзе вядзецца вывучэнне беларускай культуры, гісторыі, народнай творчасці і г. д.

Курсы праходзілі пры Інстытуце ўдасканалення кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі. Слухачам былі прапанаваны цікавыя і патрэбныя лекцыі: сучасная беларуская літаратура, вернутая літаратура, літаратура беларускага замежжа, сучасная паэзія.

Навуковец Галіна Барташэвіч гаварыла пра традыцыйную культуру, пра беларускі фальклор і іх выхаваўчы патэнцыял. Методыцы выкладання была прысвечана сустрэча з Анатолем Клышкам, аўтарам беларускага буквара.

Апрача вучэбнай праграмы, нам была прапанавана і культурная: эскурсіі па Мінску, наведанне выставы Рэрыха і мастацкага музея Беларусі, дзе вельмі цікавая калекцыя твораў розных мастакоў Беларусі, Расіі, заходніх краін. Вельмі добрыя пачуцці выклікала паездка ў Заслаўе, калыску беларускай гісторыі і культуры, і ў Вязынку.

Вечарамі слухачы збіраліся разам, і ў цікавых дыскусіях працягваліся нашы знаёмствы.

Мы ўдзячныя Міністэрству асветы Беларусі і нашаму куратару Г. Пяцігору за гэтыя курсы, за веды і новыя знаёмствы, якія мы атрымалі тут. І нам так хочацца сказаць арганізатарам курсаў не "да пабачэння", а — "да новых сустрэч".

**Паўла САЎЧАНКА,**
**настаўнік віленскай беларускай школы**
**імя Ф. Скарыны.**

## ПОСТАЦІ: АЛЯКСАНДР ХАЦКЕВІЧ

# ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ВЕДАЛІ, ХВАЛІЛІ, ЛЮБІЛІ

У маі 1924 года Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў А. Хацкевіча старшынёй Магілёўскага акруговага выканкома. Адзначаючы дзейнасць новага старшыні, газета "Саха і молат" пісала, што фінансавы бюджэт Магілёўскай акругі павінен быць прыкладам для бюджэтаў і іншых акруг рэспублікі.

З красавіка 1925 года А. Хацкевіч працуе народным камісарам унутраных спраў БССР, а з 1926 па 1927 год — пастаянным прадстаўніком урада БССР пры ўрадзе СССР. Аляксандр Ісакавіч прымаў удзел у рабоце такіх вышэйшых органаў краіны, як ЦВК СССР, Саўнарком, Савет працы і абароны. 10 снежня 1926 года А. Хацкевіч на пасяджэнні Савета працы і абароны ўнёс прадстаўленне БССР аб будаўніцтве раённай электрастанцыі на Асінаўскім балоце. Прынятае рашэнне паклала пачатак Асінаўскай ДРЭС, знакамітай беларускай будоўлі, праслаўленай маладымі рукамі рабочых Беларусі і апетай у многіх песнях і паэмах.

12 красавіка 1927 года на першай сесіі ЦВК БССР восьмага склікання А. Хацкевіч быў выбраны членам Прэзідыума і сакратаром ЦВК БССР. 14 мая 1927 года Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў А. Хацкевіча старшынёй Нацыянальнай камісіі пры ЦВК БССР. Менавіта на гады, калі А. Хацкевіч узначальваў гэтую важную камісію, прыйшоўся пік праводзімай у рэспубліцы беларусізацыі. Нацкамісія ЦВК БССР разам з акруговымі нацкамісіямі правяла значную работу па перакладу справаводства ЦВК, СНК БССР, наркаматаў рэспублікі, акрвыканкомаў на беларускую мову, арганізацыі школ, вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў з выкладаннем на беларускай мове, развіцці беларускай мовы, літаратуры і культуры.

За гады сваёй актыўнай дзейнасці Хацкевіч шмат зрабіў для развіцця навукі, культуры, асветы. Ён узначальваў камісію па рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук. Ва ўрадавую камісію таксама ўваходзілі Ігнатоўскі, Баліцкі, Некрашэвіч і Аршанскі. У пастанове ЦВК і СНК БССР па пытанні рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук ад 13 кастрычніка 1928 года ўрадавай камісіі на чале з А. Хацкевічам даручалася да 15 лістапада 1928 года падаць у Савет народных камісараў на зацвярджэнне пастаянны састаў Прэзідыума і асабовы састаў правадзейных членаў Беларускай акадэміі навук, а таксама тыя змены ў статуце акадэміі, якія патрэбны і вынікаюць з пастановы. Гэта даручэнне Камісіяй на чале з А. Хацкевічам было выканана. З пачаткам 1929 года Беларуская акадэмія навук пачала адлік сваёй дзейнасці.

Таленавіты арганізатар мас А. Хацкевіч самаахвярна працаваў на многіх пасадах. У 1931 годзе ён быў назначаны наркомам фінансаў БССР і шмат рабіў, каб кожная народная капейка працавала на дабрабыт народа.

Заняты важнымі дзяржаўнымі справамі, А. Хацкевіч усё ж часта сустракаўся з землякамі ў Мінску. Сяляне-хадакі ішлі да яго са сваімі патрэбамі і крыўдамі, і Аляксандр Ісакавіч уважліва выслухоўваў іх, дапамагаў, калі была магчымасць, ушчуваў за пралікі ў рабоце мясцовае кіраўніцтва.

Нягледзячы на маладосць, ён быў вельмі сталым чалавекам і выдзяляўся сваімі высокімі палітычнымі і дзелавымі якасцямі. Павага да яго была бязмежнай. У ім цанілі сціпласць, прынцыповасць і дзелавітасць, абаяльнасць і прастату і яшчэ вельмі важную якасць — даступнасць. Аляксандр Ісакавіч адразу ж адклікаўся на просьбы людзей прыехаць да іх ці прыняць у сябе. Больш таго, ён знаходзіў магчымасць запрасіць на такія сустрэчы артыстаў, урачоў, пісьменнікаў.

Сакратар ЦВК БССР А. Хацкевіч атрымаў запрашэнне ад землякоў. У ім гаварылася: "Просім прыехаць да нас 21 лістапада ў вёску, пабеседаваць з намі і дапамагчы выканаць усе задуманае для перабудовы нашага быта". Аляксандр Ісакавіч шчыра падзякаваў за запрашэнне і прыахвоціў да ўдзелу ў свяце паэта Міхася Чарота, артыстаў і рэжысёра Уладзіслава Галубка, прафесара Лявонава, урача Нейфаха і іншых.

Увечары ў нардоме ў Лошніцы адбыўся святочны канцэрт. Міхась Чарот чытаў сваю паэму "Беларусь лапцюжная":

**А па гораду**
**Сын яго рухае,**
**Грукае горда**
**Па бруку ботамі:**
**чок-чок...**
**Ад працы ў мазалях**
**рука...**
**А на грудзях яго —**
**значок**
**Прыгожа ззяе:**
**ЦВК.**

Гэтыя радкі паэмы людзі сустрэлі воплескамі. Яны разумелі, каму адрасаваны пранікнёныя словы — іх паважанаму земляку, на грудзях якога пунсавеў значок члена ЦВК, сыну старой шчаслівай Ісачыхі, што сядзела сярод аднавяскоўцаў і радасна ўсміхалася.

З цікавасцю глядзелі сяляне падрыхтаваную моладдзю камедыю "Мікітаў лапаць", пастаноўкі Уладзіслава Галубка, слухалі вершы Янкі Купалы, Кандрата Крапівы.

На другі дзень А. Хацкевіч наладзіў прыём грамадзян. Слухаў скаргі жыхароў з Граннага, Мачанкі, Навасёлак, Баяр:

— Палена дроў не далі.

— Налог няправільна налічылі.

Адны патрабавалі паляпшэння работы ў сельсавеце, другія кааператыў крылі, бо тавару не вязуць... Усіх прыняў, выслухаў разам з мясцовымі кіраўнікамі А. Хацкевіч. Прыходзілася чырванець работнікам сельсавета, што не разабраліся з дробязнай справай, няёмка адчувалі сябе іншым разам і сяляне, што ў сваіх скаргах і патрабаваннях зыходзілі з сваіх вузкіх інтарэсаў. Знайшлася работа і для прафесара Лявонава, і ўрача Нейфаха, і іншых. Сяльчане былі задаволены: непаразуменні з мясцовымі кіраўнікамі, скаргі былі вырашаны. Жыхары Лошніцы сардэчна праводзілі сваіх дарагіх гасцей. На развітанне землякі падаравалі А. Хацкевічу саматканую з беларускім арнаментам коўдру і сімвал Міншчыны — лыкавыя лапці.

У 1935 годзе IV Усесаюзны з'езд Саветаў выбраў А. Хацкевіча сакратаром Савета Нацыянальнасцей ЦВК СССР і кандыдатам у члены яго Прэзідыума. Ён удзельнічаў у рабоце многіх дзяржаўных камісій, распрацоўцы важных пастаноў, нястомна арганізоўваў іх выкананне. Кожная дзяржаўная справа, якая абмяркоўвалася ў вышэйшым органе СССР, кранала яго сэрца, абуджала энергію, надавала сілы. Часта ён браўся за пяро. І сёння, чытаючы артыкулы А. Хацкевіча, адчуваеш, колькі пераканапасці, зайздроснага аптымізму, непахіснай веры ў нашу будучыню было ў гэтага цудоўнага, сціплага чалавека.

Былы карэспандэнт газеты "Бальшавік Барысаўшчыны", член Саюза журналістаў СССР Д. Клябанаў, які летам 1935 года ў саставе групы піянерскіх работнікаў Барысава і раёна наведаў Маскву, успамінае аб сустрэчы з А. Хацкевічам.

"Позна ўвечары, калі наша група вярнулася ў гасцініцу, мы даведаліся: нас будзе прымаць Аляксандр Ісакавіч Хацкевіч, які працаваў тады сакратаром Савета Нацыянальнасцей ЦВК СССР. Кожнаму з нас было добра вядома імя нашага слаўнага земляка. Пагэтаму мы з такім нецярпеннем чакалі мінуты сустрэчы.

І вось настаў доўгачаканы час. Гарачым летнім днём мы з хваляваннем пераступілі парог прасторнай, светлай залы з высокімі зашторанымі вокнамі. І тут упершыню я ўбачыў А. Хацкевіча — светлавалосага, рослага, стройнага, абаяльнага мужчыну. Яго твар свяціўся радаснай усмешкай, ад якой на душы рабілася па-асобаму цёпла, добра. З першых жа хвілін мы адчулі сябе, як дома.

Гаспадар запрасіў нас за сталы, накрытыя тоўстым зялёным сукном. На сталах нас чакалі пачастункі: чырванабокія яблыкі, пячэнне, цукеркі. За дзень мы добра прагаладаліся, і пачастункі былі якраз да месца.

Завязалася непрымусовая, душэўная размова. Нашы погляды былі накіраваны да крайняга століка, за якім сядзеў Аляксандр Ісакавіч. Аб многім расказаў ён нам тады. Аб тым, як праходзіла ўсенароднае абмеркаванне праекта новай Канстытуцыі СССР і аб плане генеральнай рэканструкцыі сталіцы...

Перад нашым прыходам А. Хацкевіч уручыў урадавыя ўзнагароды групе народных камісараў. Сярод іх, як мы даведаліся, быў і Сярго Арджанікідзе, імя якога цесна звязана з Барысаўшчынай. Аб гэтым падрабязна расказаў нам Аляксандр Ісакавіч.

— Кожны раз, калі мы сустракаемся з Сярго, — працягваў Хацкевіч, — ён заўсёды пытае ў мяне пра Барысаў, пра тыя змены, якія адбыліся ў жыцці горада і барысаўчан. І сёння мы ўспомнілі пра суровыя дні грамадзянскай вайны на Барысаўшчыне.

Сярод членаў нашай дэлегацыі знаходзіўся і старшы піянерважаты Навасёлкаўскай школы Міхаіл Іванавіч Апет. — Навасёлкі — радзіма Хацкевіча.

Аляксандр Ісакавіч папрасіў Апета расказаць, як жывуць, працуюць яго землякі. Пасля сустрэчы ён уручыў падарунак піянерам і школьнікам Навасёлкаўскай школы — патэфон з наборам пласцінак. На развітанне наша дэлегацыя сфатаграфавалася разам з А. Хацкевічам. Ужо змяркалася, калі мы выйшлі на вуліцу. Каля будынка чакалі легкавыя машыны, якія даставілі нас у гасцініцу".

Д. Клябанаў успамінае і сваю другую сустрэчу з А. Хацкевічам у 1935 годзе ў Барысаве: "Як толькі поезд астанавіўся, Аляксандр Ісакавіч выйшаў на перон і адразу ж папаў у акружэнне землякоў. Сярод іх былі таварышы па сумеснай рабоце ў Лошніцы, Барысаве. Кожнаму было пра што ўспомніць, пра што расказаць".

Дзе б ні працаваў, ні жыў А. Хацкевіч, ён адусюль пранікліым вокам углядаўся ўперад, у будучыню. Глыбокае пранікненне ў сэнс жыцця, неразрыўная сувязь з родным народам былі галоўнымі рысамі характару А. Хацкевіча — чалавека з народных глыбінь.

Кароткім было жыццё А. Хацкевіча. Паводле ўспамінаў жонкі — Лідзіі Уладзіміраўны, Аляксандр Ісакавіч вельмі любіў оперу Барадзіна "Князь Ігар" і напярэдадні арышту часта напяваў "О, дайце, дайце мне свабоду!.." Як "ворага народа" яго арыштавалі 25 ліпеня 1937 года і па этапу даставілі ў Мінск быццам бы для правядзення следства па справе антысавецкага падполля. Так Аляксандр Ісакавіч стаў ахвярай культу асобы. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР Хацкевіч 24 лістапада 1937 года быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу, з канфіскацыяй усёй маёмасці. "Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР вызначыла: прыгавор ад 24 лістапада 1937 года... адмяніць... з-за адсутнасці саставу злачынства". Аб гэтых двух дакументах сям'я А. Хацкевіча даведалася пазней. А тады Лідзію Уладзіміраўну арыштавалі ў Маскве і асудзілі як члена сям'і здрадніка радзімы. Восем гадоў яна правяла ў сталінска-берыеўскіх лагерах Мардовіі і пад Архангельскам. У 1946 годзе, апынуўшыся на свабодзе, яна зрабіла запыт пра лёс мужа. Ёй адказалі: памёр ад інфаркту ў аддаленых раёнах СССР 27 жніўня 1943 года. Яна і дзеці гэтаму не паверылі. І мелі на тое падставы. Аб гэтым гавораць прыведзеныя з дакументаў радкі. Сын А. Хацкевіча — Уладзімір, у мінулым настаўнік-моваэнаўца, што жыве зараз у Барысаве, у пісьме піша: нядаўна стала вядома, што яго бацька быў асуджаны і расстраляны ў лістападзе 1937 года ў Мінску (дагэтуль сям'я лічыла, што прыгавор быў прыведзены ў выкананне ў Маскве). Дачка А. Хацкевіча — доктар медыцынскіх навук таксама ўжо на пенсіі, жыве ў Маскве.

У Барысаве імем А. Хацкевіча названа адна з вуліц. На доме №64 па вуліцы Дзяржынскага ў Барысаве, дзе ён у 20-я гады жыў, у 1969 годзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1983 годзе мемарыяльная дошка А. Хацкевіча была ўстаноўлена ў Лошніцы на Доме культуры. Імя яго было прысвоена піянерскай дружыне Лошніцкай школы.

Змяніла свой воблік Лошніца, непазнавальны стаў і сам Барысаў. Гэтыя змены — працяг таго, у імя чаго працаваў і жыў А. Хацкевіч.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 28.**

Дзякуючы паведамленню пісьменніка Лідзіі Арабей, у Музеі Янкі Купалы дазналіся, што Барыс Пятроўскі (2.03.1910 г., в. Нізок Мінскай губерні — 18.08.1994, Масква, пахаваны ў г. Манчагорску Мурманскай вобл.) — былы вязень ГУЛАГа, бібліёграф, калекцыянер, захавальнік каштоўных кніг з аўтографамі Янкі Купалы. Па дамоўленасці дырэктара музея Ж. Дапкюнас з дачкой Б. Пятроўскага — Ліяй Барысаўнай, якая жыве зараз у Маскве, я праз Санкт-Пецярбург выехаў у Манчагорск, каб агледзець вялізную бібліятэку Пятроўскага і выбраць неабходныя для музея кнігі. Кнігазбор нашага земляка складаўся з двух частак. У першы і самы каштоўны раздзел увайшлі кнігі з уласнай бібліятэкі сябра Янкі Купалы ў Пецярбургу і дабрадзея яго выданняў Леаніда Сеўрука. Пасля яго смерці ў 20-х гадах Пятроўскі набыў іх ва ўдавы



# «ШЧЫРЫМ СЭРЦАМ ПРАЎДЗІВА АДДАНЫ...»

*(З НОВЫХ ПРЫДБАННЯЎ КУПАЛАЎСКАГА МУЗЕЯ)*

прафесара і, нягледзячы на жорсткія ўмовы свайго існавання (арышт пасля расстрэлу бацькі, дзве высылкі на Крайнюю Поўнач), змог разам з жонкай зберагчы ад знішчэння найкаштоўнейшыя выданні з аўтографамі. Вось яны. На кнізе Янка Купала. "Адвечная песьня. У XII праявах" (Пецярбург. 1910) рукою Івана Дамінікавіча напісана: "Вельмі паважанаму прафэсару п. Л. С. Севруку ў довад прызнаньня Яго прац і думак, пакладаных на карысьць маці-Беларусі і яе нешчасьлівага народа.

Ад шчыраго сэрца Янка Купала.

Пецярбург. 25/VI 1910 г."

Яшчэ адна рэліквія: Janka Kupala. "HUSLAR". Pieciarburh. 1910. Пазначана наступнае: "У знак вялікай пашаноты і паважанем п. Леоніду Сафоновічу Севруку шчырым сэрцам праўдзіва адданы Janka Kupala.

Пецярбург. 10/X 1910 г."

На кнізе Янкі Купалы "Шляхам жыцьця" (Пецярбург. 1913 г.) чытаем: "Яго Міласьці Леоніду Сафоніевічу Севруку на добрую памятку ад шчыраго сэрца — Янка Купала. Спб., 14/IV 13 г."

А яшчэ на кнігах з бібліятэкі Л. Сеўрука захаваліся аўтографы. Цытую іх з пералікам выданняў:

"Жалейка" Янкі Купалы. Спбрг. 19 14/VI 20. Многоуважаемому Леону Михайловичу Шахъ-Пароншанцу на добрую память отъ Бр. Эпимаха-Шипилло, Старшины Белорусской "Суполкі".

"Беларускія песні з нотамі". Сабраў і выдаў лацінкай А. Грыневіч. Томік І. Пецярбург. 1910.

"Шаноўнаму пану Л. Сеўруку ад выдаўца. I/IV. 1910. А. Грыневіч".

"Материалы по этнографии Гродненской губернии". Вып. второй. Издание Управления Виленского учебного округа под ред. Е. Р. Романова. Вильна. 1912 г.

"Глубокоуважаемому Владимиру Кириловичу Стукаличу. Е. Романов".

"Смоленский областной Словарь". Сост. В. Н. Добровольский. Смоленск. Типография П. А. Силина. 1914.

"Глубокоуважаемому Владимиру Ивановичу Ламанскому с сердечной признательностью посвящает труд свой благодарный автор".

А. К. Ступинский. "Белоруссия и БССР (путеводитель по выставке Государственного этнографического музея)" Ленинград, 1934.

"Барысу Пятроўскаму на ўспамін аб доме Асьветы. 5/VI.35. Аўтар".

Самай старой кнізе (фальклорныя запісы Чачота) — 130 гадоў. Ёсць надзвычай рэдкія выданні (Е. Карскі "Белорусы", т. 3, выдадзены ў Петраградзе ў 1922 годзе тыражом 600 асобнікаў)...

Пецярбургскія, віленскія, мінскія, харкаўскія выданні, кнігі савецкага часу рэпрэсіраваных пісьменнікаў, вышуканыя за доўгія гады Пятроўскім, складаюць унікальную калекцыю, невычэрпную крыніцу для купалазнаўства, сапраўдны скарб для вывучэння літаратурнага працэсу першай паловы XX стагоддзя, навуковага асэнсавання духоўнага патэнцыялу беларускай нацыі.

Творчая камандзіроўка дала магчымасць згадаць яркія постаці з акружэння Янкі Купалы. На вул. Крашчэнскай, 27, у Мінску, стаяў калісьці дом Луцкевічаў. Лекар Стэфан Янавіч Луцкевіч у 1930 годзе першым прыйшоў на дапамогу паэту, калі той у невыносных умовах сталінскіх рэпрэсій спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Так вось купалаўскі ратаўнік пахаваны ў тым жа Манчагорску. Сцяпан Іванавіч Луцкевіч (30.08.1889, Лібава — 1947, Манчагорск) быў такім жа ссыльным, як і Б. І. Пятроўскі. Пра гэта паведамілі мне ў Санкт-Пецярбургу сп. Марыя Шабуня і яе дачка Маргарыта Пятроўская (цётка Данчыка). Жылі ў дружбе дзве рэпрэсіраваныя сям'і. Два браты Луцкевічы "сустрэліся" ў Манчагорску. Толькі другі, Антон, быў побач свайго брата як аўтар кнігі з бібліятэкі Б. І. Пятроўскага (Антон Навіна. "На дарозі да новаго жыцьця", Пецярбург, 1912).

У часе камандзіроўкі наладжана сувязь з першаснай суполкай Міжнароднага фонду Янкі Купалы (старшыня пісьменнік А. Кірвель), устаноўлены кантакты з Цэнтральным гістарычным архівам, дзе знаходзяцца матэрыялы пра Л. Сеўрука, Б. Пятроўскага, каб пры выпадку прадоўжыць даследаванне жыццядзейнасці асобаў з акружэння Купалы.

З двухпудовым скарбам (98 кніг, 48 паштовак) вярнуўся я ў Мінск, паслаўшы А. Пятрунніка ву ў Манчагорск, А. Кірвелю ў Санкт-Пецярбург падзяку за іх дапамогу ў нялёгкай дарозе.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы.**

**НА ЗДЫМКАХ: аўтографы Янкі Купалы; Стэфан Янавіч (Сцяпан Іванавіч) ЛУЦКЕВІЧ.**


Янка Купала.

Шляхам жыцьця.

Janka Kupała.

HUŚLAR

Pieciarburh 1910.

# ЗОРКІ ПАСТАЎСКАГА БАЛЮ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ўдзельнікі ансамбля "Паазер'е", што стаў пераемнікам мясцовых выканальніцкіх традыцый вядомага яшчэ з 30-х гадоў Груздаўскага цымбальнага аркестра. Граюць у "Паазер'і" на мясцовых, выробленых старымі майстрамі цымбалах, з захаваннем усіх выканальніцкіх традыцый і свайго адметнага рэпертуару. Нават у мясцовай музычнай школе, дырэктарам якой працуе кіраўнік "Паазер'я" Анатоль Собаль, дзяцей навучаюць ігры менавіта на гэтых, старадаўніх цымбалах. Так, праз творчую дзейнасць ансамбля, праз далучэнне да засваення цымбалаў дзяцей і зберагаецца унікальная народная традыцыя. Дарэчы, менавіта наяўнасць такой традыцыі і стала адной з прычын "пераносу" фестывалю народнай музыкі з абласных гарадоў, дзе праходзілі першыя чатыры фестывалі, у невялікія Паставы. Бо не тое важна, што горад вялікі, а тое, што вялікія традыцыі, глыбокія іх карані. А яшчэ — кранаючая любоў мясцовых жыхароў да нашых цымбалаў, велізарная цікавасць да ўсіх мерапрыемстваў, што праходзяць у час фестывалю. Пацвярджэнне таму — трывалая адсутнасць свабодных месцаў падчас любога канцэрта фестывалю. І заўсёды сярод публікі старшыня райвыканкома Васіль Чэпік, яго намеснік Ала Кейзік, а з імі — усё раённае кіраўніцтва, якое не толькі прысутнічае ў якасці гледачоў, а робіць усё магчымае, каб ніводная дробязь не сапсавала святочны настрой удзельнікаў, гасцей і слухачоў. А што ўжо Наталлі Булавінцавай, загадчыцы мясцовага аддзела культуры, дастаецца — пра гэта можна толькі здагадвацца, бо яна — дырэктар фэсту, яго галоўны каардынатар. Здаецца, ніхто і не бачыў, каб яна прысела хоць на хвіліну, бо клопату ў яе тут — як ні ў кога (можа, толькі ў галоўнага рэжысёра Пятра Гуда, загадчыка кафедры масавых святаў Беларускага універсітэта культуры, які і прыдумаў, і ажыццявіў увесь гэты цудоўны баль).

А галоўных зорак балю выявіў конкурс "Хто каго", дзе ў творчым спаборніцтве збіраюцца лепшыя выканаўцы на народных інструментах і прыпевачнікі. На гэты раз узровень майстэрства быў як ніколі, бо з'ехаліся на юбілейны фэст яго былыя лаўрэаты, якія не раз паспрабавалі сябе ў розных спаборніцтвах. Журы ў складзе выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх музычных устаноў Мінска, вядомых артыстаў вызначыла лепшых. Сярод гарманістаў імі сталі Міхась Рубанік з Мсціслаўя, Сяргей Пагарэльскі з Сянна, Міхаіл Касцюкевіч і Андрэй Максімчык з Мінска, Анатоль Новікаў з Жодзіна, Пятро Астапчук са Століна. Сярод цымбалістаў вызначыліся Мікалай Вашкевіч з Гродна і Раман Байчук з Украіны, які грае на традыцыйных для заходняга рэгіёна венгерскіх цымбалах, а таксама дуэт цымбалістак з Віцебска. Перадаць у артыкуле, як ігралі гэтыя зоркі, немагчыма. Гэта была сапраўдная Музыка, тая самая, якую можна азначыць толькі з вялікай літары. І не так важна, што ў кагосьці парваліся струны, хтосьці не так сеў да мікрафона, усё роўна: зорка ёсць зорка. Пастаўскую ж публіку не падманеш: яна тонка адчувае і разумее, дзе Музыка была сапраўдная. Так што шаноўнаму журы можна было проста прыслухоўвацца да апладысментаў у зале: калі гэта авацыі, а іх было шмат, дык адразу зразумела, што на сцэне новая зорка ці маленькая зорачка, як дзевяцігадовая прыпевачніца Вераніка Цярлюк, якая гарэзліва і звонка спявала на конкурсе. Дарэчы, найбольш удалымі сярод прыпевачніц і публіка, і журы палічылі выступленні Галіны Коваль з гомельскага ансамбля "Скарыначка" і Алены Шавялёвай з мінскага ансамбля "Шчодрыца", чые прыпеўкі былі поўныя смачнага народнага слоўка, яскравага гумару, добрага густу. І выканальніцкая манера самадзейных спявачак, і ўменне захапіць сваёй прыпеўкай залу — усё гэта прадкрэслівала іх самаадданасць такому складанаму і такому любімаму ў нас жанру, як прыпеўка. А тамбоўскія прыпеўкі вельмі артыстычна праспявала ўдзельніца ансамбля "Русь" Ніна Якаўлева, якая таксама стала лаўрэаткай.

Адметнасць сёлетняга фэсту ў тым, што акрамя цымбалаў і гармоніка ў конкурсе ўдзельнічалі і выканаўцы на іншых народных інструментах. І сапраўды: не толькі ж двума інструментамі багатая наша традыцыйная культура. Спрадвеку побач з цымбаламі былі на Беларусі скрыпка, басэтля. А колькі народных духавых інструментаў бытавала ў культурным асяроддзі! Тут і дудка, і жалейка, і саламянка, чаротка, і карынка, дуда — усіх не пералічыш. І вось ужс ёсць першыя лаўрэаты—выканаўцы на духавых інструментах: Мікалай Хасэу з Малдавіі, які віртуозна грае на наі, Міхаіл Калбасін — на дудцы, Дзмітрый Лявіцкі з Украіны, які прадэманстраваў майстэрства ігры адразу на чатырох духавых заходнеўкраінскіх інструментах. І быццам бы ў цішыні пастаўскіх азёраў заігралі прамяні малдаўскага сонца, заспявалі на свае галасы сівыя Карпаты. Так немудрагелістыя народныя напевы аб'ядналі ў гэтай зале і паазерскага хлебароба, і малдаўскага вінароба, і літоўскага рыбака, і карпацкага плытагона.

Што ж да ансамбляў, дык яны сёлета ў конкурсе не змагаліся, і гэта яшчэ адна адметнасць юбілейнага фэсту. З этычных меркаванняў мы палічылі, што кожны з гэтых калектываў калісьці ў нялёгкай барацьбе ўжо заваяваў сабе першае месца (а менавіта толькі пераможцы ўсіх дзесяці папярэдніх фестываляў і былі сёлета запрошаны), і таму няхай гэты фэст стане для яго ўдзельнікаў проста святам. Тым святам, якое неабходна кожнаму музыку, на якім ён можа сябе паказаць ды іншых паглядзець, нечаму павучыцца ды адчуць сваю неабходнасць. Бо што ж за свята без музыкі?! Гэта асабліва паказаў начны баль на галоўнай плошчы горада. Ва ўсіх яе кутках гучалі песні, якія разам спявалі і гледачы, і музыкі, падахвочваючы адзін аднаго. Вось пад вялікай таполяй развярнулі мяхі гармонікаў Андрэй Максімчык і Уладзімір Парэйка з мінскага гурта "Шчодрыца", і адразу ж падхапілі песню Алена Сядлецкая і Святлана Карнеева, а за імі і ўсе, хто стаяў побач. А метраў за сто ад "Шчодрыцы" наладзілі вясёлую польку "Крупіцкія музыкі", і ходарам пайшла ўся плошча. Столькі народу сабралася вакол гэтых гуртоў, што журы і працiснуцца ледзьве здолела, каб вынікі падвесці. А заданне было такое: хто больш народу вакол ся-



**Удзельнікі фестывалю ў "Горадзе майстроў": майстар Аляксандр ВІШНЕЎСКІ і ансамбль "Шчодрыца" з Мінска.**

бе збярэ, той і пераможца. Вось і сталі "Крупіцкія музыкі" ды "Шчодрыца" пераможцамі, а за артыстычнасць сваю, за ўменне прывабіць публіку атрымалі па прызу — маленькаму вясёламу парсючку. А спецпрыз — кудлаты баран дастаўся ансамблю з Украіны.

Назаўтра ўвечары кожны калектыў стаў госцем адной з гаспадарак Пастаўскага раёна. Прымалі гасцей вельмі цёпла, ды і артысты прыклалі ўсе старанні, каб канцэрт спадабаўся вяскоўцам. Так што свята зазвінела па ўсім раёне. Будзе што ўспомніць аб гэтай вечарыне і гродзенскім "Музыкам", і воранаўскім "Лявонам", і гомельскай "Скарыначцы", і столінскай "Выцінанцы". Ды і вяскоўцы, напэўна, засталіся задаволенымі, бо шчыра запрашалі прыязджаць і ў наступным годзе.

У нядзелю, а была гэта каталіцкая Тройца, свята пачалося з наведвання касцёла, дзе пасля святочнага набажэнства адбыўся канцэрт старадаўняй музыкі, якую прыгожа выконваў баранавіцкі ансамбль "Контрданс". Напэўна, упершыню велічны Новаапостальскі касцёл слухаў гукі флейты, гітары, клавесіна, на якіх выконваліся творы Скарлаці, Моцарта, Гендэля, а таксама "Полацкі сшытак" — шэдэўр невядомых беларускіх аўтараў сярэднявечча. Адметную фарбу ўнесла і выступленне вядомай беларускай арганісткі Ксеніі Пагарэлай. Трэба было бачыць прасветленыя твары слухачоў, якія шчыльна запоўнілі касцёл, калі гучала гэта дзівосная музыка. Дзякуй фестывалю за такія высокадухоўныя сустрэчы!

Але ўсё, і нават вельмі прыгожае, заўсёды калісьці заканчваецца. І апошнім акордам фестывалю стаў заключны гала-канцэрт, які прайшоў у дзівосным пастаўскім парку, дзе вялікі пагорак з новымі, яшчэ зусім бялюткімі лавамі стаў натуральнай глядзельнай залай. Але ж лавак гэтых не хапіла і палове слухачоў, столькі іх сабралася. Аб такім аншлагу, напэўна, марыць можа кожны артыст, так што ўдзельнікам фэсту пашанцавала. Кожнае выступленне мела добры водгук у пастаўчан, моцныя апладысменты. А ўжо калі расіяне заспявалі народную гульневую песню ды вывелі на сцэну Васіля Чэпіка, якога па ходу песні пераапраналі ў рускі народны ўбор, гледачы ўчынілі сапраўдную авацыю. Весялосці, жартаў, прыгажосці было столькі, што гала-канцэрт стаў незабыўным. Запомніліся выступленні ансамбля "Магілеўцы" з іх жартоўнымі танцамі, "Фэста" з іх песняй "Братка-беларус". Разам з імі, дарэчы, гэтую песню выканала венгерская цымбалістка Вікторыя Херэнчар, прэзідэнт сусветнай асацыяцыі цымбалаў, якая была членам журы фестывалю. Спадабаўся пастаўчанам і ансамбль гарманістаў Вярхоўскага дома культуры, і ансамбль цымбалістаў "Пралеска" з Міншчыны, і выступленні шматлікіх салістаў — пераможцаў конкурсу "Хто каго".

А пасля канцэрта наступілі хвалюючыя моманты, калі старшыня журы фэсту народны артыст Беларусі прафесар Міхась Казінец і начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі ўзнагароджвалі пераможцаў. Гэта стала сапраўдным апафеозам свята народнай музыкі. І нават калі яно скончылася, людзі яшчэ доўга не пакідалі парк, фатаграфаваліся з артыстамі на памяць, разам наведвалі цудоўны "Горад майстроў", які разгарнуўся побач з амфітэатрам. Аб ім таксама можна было б шмат чаго расказаць, бо з'ехаліся сюды таленавітыя майстры з усіх навакольных раёнаў. Чаго тут толькі не было: і ткацтва, і ганчарныя вырабы, і саломка, і разьба па дрэву, і карункі, і нават плеценая мэбля. Асаблівую ж увагу прыцягнулі да сябе майстры па вырабу народных інструментаў: ля іх перабывалі ўсе музыкі — удзельнікі свята і шмат чаго набылі для сябе. Я таксама не магла ўтрымацца і набыла добрую драўляную дудку ў вядомага гродзенскага майстра Мар'яна Скрамлевіча ды гліняную акарыну ў Сяргея Шчэрбы з вёскі Навасёлкі Пастаўскага раёна. Добрая будзе памяць!

Вось і скончылася свята, і яскрава заззялі ў сузор'і народных талентаў Беларусі яго новыя зоркі. Упэўнена, што яны будуць яшчэ доўга ззяць, бо для гэтага ёсць у нас усе падставы. Ёсць мудрае і прыгожае народнае мастацтва, ёсць таленавітыя і працавітыя людзі, якім яно патрэбна, і ёсць цудоўны пастаўскі фестываль, які і запальвае гэтыя зоркі.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ,**
**член журы Міжнароднага фестывалю**

# ПАКЛАДЗЕНА ПЕРШАЯ ЦАГЛІНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

"Национальной газеты", член праўлення Асацыяцыі бібліятэк, музеяў і архіваў; В. Пуцко — намеснік дырэктара па навуковай рабоце Калужскага абласнога мастацкага музея; М. Ількевіч — начальнік прэс-цэнтра Упраўлення федэральнай службы бяспекі г. Смаленска; Юрый Лабынцаў — доктар філалагічных навук, дырэктар Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук.

На прэс-канферэнцыі прадстаўнікі кожнай краіны паведамілі журналістам пра сітуацыю ў іх па гэтай праблеме. Міністр культуры Беларусі А. Сасноўскі выказаў задавальненне, што праблемай вяртання Крыжа Ефрасінні Полацкай займаецца супрацоўнік КДБ па Магілёўскай вобласці С. Багдановіч. Міністр выказаў думку, што краіны СНД не маюць юрыдычных падстаў, каб патрабаваць ад Расійскай Федэрацыі каштоўнасці, якія трапілі ў Расію падчас уваходжання гэтых краін у адзіную дзяржаву (Расійскую імперыю, СССР). Ён лічыць, што толькі па добрай волі Расія можа вярнуць тое, што ў свой час да яе трапіла. На яго думку, спрацоўвае прымаўка: "Што было ваша — стала наша".

А. Мальдзіс паведаміў прысутным аб сітуацыі па гэтай праблеме ў Беларусі:

— у рэспубліцы няма ні дзяржаўнай, ні навуковай структуры, якія б займаліся праблемамі рэстытуцыі;

— інфармацыю пра страчаныя каштоўнасці збіраюць сябры грамадскай камісіі "Вяртанне", якая дзейнічае пры Беларускім фондзе культуры;

— намаганнямі БФК і сяброў гэтай грамадскай камісіі выдадзена ўжо тры зборнікі "Вяртанне" з інфармацыяй пра страчаныя Беларуссю каштоўнасці;

— Рэспубліка Беларусь так і не выпрацавала дзяржаўных адносін да гэтай праблемы, у той час як урадавая камісія Украіны ўжо выдала 7 выпускаў, прысвечаных страчаным каштоўнасцям і перадала свае спісы па музейных стратах Германіі. Італія выдала шыкоўны ілюстраваны каталог страчаных каштоўнасцей. Добрыя вынікі мае тут Польшча.

Супрацоўнік Міністэрства культуры Расіі М. Нікандраў паведаміў, што ў Расіі дзейнічае дзяржкамісія па рэстытуцыі каштоўнасцей, перамешчаных у час другой сусветнай вайны; яе супрацоўнікамі вядуцца плённыя пошукі інфармацыі пра перамяшчэнне каштоўнасцей СССР на Захад, а пасля вайны — з Захаду на Усход. Ёсць у іх інфармацыя і пра перамяшчэнне ўкраінскіх і беларускіх каштоўнасцей. Гэтую інфармацыю яны гатовы нам перадаць.

Старшыня ўкраінскай дэлегацыі А. Федарук паведаміў, што ў Кіеве ў 1992 годзе збіралася канферэнцыя па гэтай праблеме ў межах СНД, але Расія адмовілася прыняць у ёй удзел, што ў спецыялістаў украінскай камісіі таксама назапашана шмат інфармацыі пасля працы з архівам пра перамешчаныя ў час другой сусветнай вайны каштоўнасці Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі і што яны згодны падзяліцца імі, калі да іх прыедуць спецыялісты суседніх краін.

У Міжнароднай канферэнцыі прыняло ўдзел менш дзяржаў, чым было пададзена заявак у папярэдні год. З 54 пазначаных у праграме дакладчыкаў выступілі толькі 34, і некалькі паведамленняў заслухалі незапланаваных. Пры гэтым высветлілася, што заслухаць 54 даклады можна не менш чым за 3 дні. Многія дакладчыкі не прыехалі па палітычных матывах, а некаторыя з-за таго, што позна атрымалі запрашэнне, маючы на гэты час іншыя планы.

Тым не менш міжнародны форум меў вялікую карысць, і беларускія спецыялісты атрымалі каштоўную інфармацыю па розных аспектах згаданай праблемы.

Перш-наперш хочацца выказаць вялікую ўдзячнасць ЮНЕСКА, якая выдзеліла грошы на многія культурныя праграмы, што распрацоўваюцца ў Беларусі, і на многія міжнародныя канферэнцыі. Напрыклад, Нацыянальная бібліятэка Беларусі ўдзельнічае ў праграме ЮНЕСКА "Памяць свету". А старшыня Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА, намеснік міністра замежных спраў Н. Мазай у сваім выступленні падкрэсліла, што камісія гатова падтрымаць любыя ініцыятывы ў межах праграмы ЮНЕСКА "Фарміраванне культуры свету".

Многія дакладчыкі падалі інфармацыю пра стан доследаў і практычных захадаў па гэтай праблеме. Напрыклад, прафесар А. Федарук (Кіеў) паведаміў, што, дзякуючы наяўнасці дзяржаўных структур на Украіне, якія займаюцца вяртаннем страчанай спадчыны, яны ўжо выдалі каталогі па ўкраінскаму мастацтву і бібліятэках, рыхтуюць да выдання каталог страчаных каштоўнасцей, што ўжо налічвае 10 тысяч археалагічных помнікаў; вярнулі з Германіі херсанескія археалагічныя знаходкі; пад эгідай ЮНЕСКА правялі ў 1996 годзе Міжнародную канферэнцыю па страчаных каштоўнасцях у час другой сусветнай вайны і шмат іншых мерапрыемстваў. А. Федарук адзначыў, што паспяховае развіццё нацыянальных праграм рэстытуцыі будзе залежаць ад таго, ці будуць дзяржавы ў сваіх дзеяннях прытрымлівацца міжнароднага права ў гэтай галіне (ідэй, закладзеных у Гаагскай канферэнцыі, фондзе Рэрыха і інш. міжнародных пагадненнях і канвенцыях). У сучасны момант існуюць суб'ектыўныя патрабаванні многіх дзяржаў, якія разыходзяцца з ідэямі і нормамі міжнароднага права; іх трэба тактоўна і спакойна ўзгадняць дыпламатычнымі метадамі, прызнаючы верхавенства міжнароднага права над нацыянальна-дзяржаўным.

Прафесар В. Кавальскі (Варшава) — буйнейшы спецыяліст у галіне міжнароднага права — удакладніў некаторыя сэнсавыя паняцці ўжываемых тэрмінаў. Напрыклад, тэрмін "рэстытуцыя" ўжываецца, калі ёсць юрыдычныя дакументы пра страты каштоўнасцей у час ваенных дзеянняў; тэрмін "вяртанне" ўжываецца, калі былая імперыя павінна вярнуць былым калоніям (новастворaным дзяржавам) вывезеныя ў свой час з іх тэрыторыі каштоўнасці. Існуе праблема тэрміна, які можа ўжывацца, калі распад адзінай дзяржавы на некалькі новых дзяржаў прыводзіць да перамяшчэння каштоўнасцей, звезеных у свой час з перыферыйных абласцей у цэнтр былой адзінай дзяржавы. У такіх выпадках згодна з міжнароднымі правіламі ўжываецца тэрмін "рэпатрыяцыя" замест "вяртанне" і "рэстытуцыя". Напрыклад, у 1986 годзе была падпісана дамова паміж Італіяй і Аўстрыяй аб вяртанні зямель і рэпатрыяцыі ў Венецыю бібліятэкі, помнікаў мастацтва і археалогіі, якія з'яўляюцца часткай італьянскай спадчыны. Перамовы вяліся некалькі гадоў, і шмат чаго Вена "рэпатрыіравала" ў Венецыю.

Для беларускіх спецыялістаў, якія толькі пачалі займацца гэтай справай, міжнародныя тэрміналагічныя ўдакладненні прафесара В. Кавальскага будуць вельмі карыснымі ў далейшай практычнай дзейнасці ў гэтай галіне.

Прафесар В. Акуленка (Кіеў) выказаў задавальненне, што А. Мальдзіс змог пераканаць ЮНЕСКА, каб уключыць у кантэкст канферэнцыі не толькі юрыдычны аспект, а і маральна-этычны. Менавіта міждзяржаўныя адносіны ў галіне культурнай спадчыны павінны надаць палітыцы маральнасці, таму што рэстытуцыя з юрыдычнага пункту гледжання зайшла ў тупік. Склалася сітуацыя, калі без узаемадачыненняў да маралі юрыдычнае права не можа здзейсніцца. Калі права (як такое) адкінула мараль, яно апынулася ў міжнароднай ізаляцыі. Вядома, што некаторыя краіны валодаюць чужымі каштоўнасцямі і задача іх прававых установак (законаў) ператварыць чужыя каштоўнасці ў сваю ўласнасць, нягледзячы на парушэнне міжнароднага права. Але нават на даным этапе развіцця праблемы, дзякуючы Мінскай канферэнцыі, якая прапануе задзейнічаць міждзяржаўнае сумеснае выкарыстанне страчаных каштоўнасцей, можна знайсці выйсце, каб хоць уключыць страчаныя каштоўнасці ў навуковы ўжытак. Гэта значыць, даць інфармацыю, дзе ляжаць вывезеныя каштоўнасці, адкрыць да іх доступ не толькі спецыялістам, але і ўсім людзям праз выставы і сумесна выдадзеныя каталогі.

Ідэю сумеснага выкарыстання фондаў расійскіх архіваў, у якіх знаходзіцца вельмі шмат беларускіх дакументаў, і бібліятэк, дзе захоўваюцца былыя бібліятэкі і іх часткі, вывезеныя з Беларусі, падтрымаў і М. Нікалаеў (С.-Пецярбург). Ён прапанаваў сумесна выдаць каталогі бібліятэк Сапегаў, Радзівілаў, Полацкай езуіцкай калегіі, Жыровіцкага манастыра і іншых больш дробных, а таксама правесці выставы знойдзеных у С.-Пецярбургу кніг з гэтых бібліятэк, бо Расія іх нам не верне.

Ідэю сумесных каталогаў і выстаў прапанаваў і загадчык аддзела Акадэмічнай бібліятэкі А. Фурс (Мінск) адносна "вяртання" бібліятэкі Храптовіча з Кіева. А. Севасцьянаў (Масква) выказаўся супраць вяртання Германіі яе каштоўнасцей, перамешчаных у Расію, на той падставе, што расійскія людзі аплацілі іх крывёю ў час вайны, акрамя таго, нямецкія фашысты знішчылі многія культурныя каштоўнасці Расіі ў гэты час.

В. Пуцко (Калуга) адзначыў, што міграцыя беларускіх каштоўнасцей па свеце адбывалася не толькі ў выніку ваенных рабункаў, але і ў выніку перамяшчэння беларускага насельніцтва падчас ваенных дзеянняў, якое везла з сабой каштоўныя рэліквіі. Асабліва гэта тычыцца абразоў і дробнай металапластыкі, міграцыю якіх вельмі цяжка прасачыць, тым больш, калі людзі везлі з сабой сярэднявечныя імпарты, набытыя ў свой час іх прашчурамі. Такім шляхам, напрыклад, у Калужскі музей трапіў сярэбраны пазалочаны крыж-мошчавік XVI стагоддзя, які лічыўся загінуўшым.

Цікавымі былі і ўсе астатнія даклады, але пераказваць іх нават коратка немагчыма з-за адсутнасці месца.

Галоўнае, што канферэнцыя мела міжнародны аспект, што яна прапанавала выйсце з сучаснага міжнароднага тупіка па праблеме рэстытуцыі — сумеснае выкарыстанне страчаных каштоўнасцей і паляпшэнне маральна-этычных узаемаадносін паміж дзяржавамі ў гэтай галіне на сучасным этапе.

Такім чынам, Мінская міжнародная канферэнцыя паклала першую цагліну ў падмурак добрасуседскага паразумення ў галіне вяртання страчаных каштоўнасцей.

**Мая ЯНІЦКАЯ,**
**сябра камісіі**
**"Вяртанне" пры БФК,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

ПАРК РЭПІХАВА





**Непадалёку ад вёсак Крывошын і Ліпнікі Ляхавіцкага раёна побач з вадасховішчам, створаным ужо ў наш час, захавалася частка — прыкладна трэць — старадаўняга парку, закладзенага ў сярэдзіне XIX стагоддзя графам Патоцкім. Як расказвае вялікі знаўца гэтых мясцін настаўнік Крывошынскай сярэдняй школы Яраслаў Зубік, гэты прыгожы куток прыроды ў народзе здаўна завецца Рэпіхава. Тут расце больш за дваццаць парод унікальных дрэваў, такіх, як ясень адналісты, сосны Веймутава і аўстрыйская... Мясцовы калгас "Шлях Ільіча" стараецца прывесці ў належны стан парк Рэпіхава.**

**НА ЗДЫМКАХ: настаўнік Крывошынскай школы Яраслаў ЗУБІК; у старадаўнім парку.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

**Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей**



**International Academy of National Minorities' Research**

Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя Згуртавання беларусаў свету "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Brest United Regional Organization of the World Association of Belarusians "BATSKAUSHTCHYNA"

2—3 красавіка 1998 года адбудзецца VI Міжнародная навуковая канферэнцыя па нацыянальнай адукацыі: "АДУКАЦЫЯ ДЫЯСПАР".

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў:

1. Адукацыя дыяспар (нацыянальных меншасцей) Беларусі: гісторыя, сучасны стан і шляхі ўдасканалення.
2. Роля адукацыі ў жыцці беларускай дыяспары.
3. Уплыў канфесійнай прыналежнасці на адукацыю дыяспар.
4. Месца беларусазнаўства ў адукацыйным працэсе дыяспар.
5. Полікультурная адукацыя і яе роля ва ўдасканаленні навучальнага працэсу і захаванні нацыяльнай саматоеснасці дыяспар.

Тэзісы дакладаў ці невялікія артыкулы аб'ёмам да 5 старонак машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, дасылайце, калі ласка, у 2-х экземплярах да 15 кастрычніка 1997 года на адрас:

**Беларусь. 224030, г. Брэст-30. Аб. скрыня № 14. Праф. Яцкевічу С. А.**

Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але неабходным з'яўляецца патрабаванне змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, іх арфаграфічнай і стылістычнай дакладнасці. Аргкамітэт будзе ўдзячны тым аўтарам, якія змогуць прадставіць свой матэрыял у надрукаванай форме разам з дыскетай (тэкставы рэдактар Word 2, 6; вяртанне дыскеты гарантуецца). Да матэрыялаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, акадэмічнага звання (калі ёсць), месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі плануецца выдаць да пачатку яе правядзення.

Тэлефон для даведак: **26-25-14 (код г. Брэста 8-0162).**

**АРГКАМІТЭТ.**

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# ЛУНІНЕЦКАЙ ПОШЦЕ – 110 ГАДОЎ

У другой палове мінулага стагоддзя Лунінец — невялікая вёска Пінскага павета Мінскай губерні з насельніцтвам крыху больш за 350 чалавек. Як і ў большасці такіх паселішчаў царскай Расіі, пошта ў Лунінцы адсутнічала. Рост Лунінца пачаўся з будаўніцтва чыгунак. У 1884 годзе была пабудавана чыгунка Баранавічы — Лунінец — Пінск. Тады ў невялікай вёсцы з'явіўся чыгуначны прыпыначны пункт, невялікая чыгуначная гаспадарка. З далейшым будаўніцтвам чыгункі — у 1885 годзе лініі Лунінец — Сарны, у 1886-м — Лунінец — Калінкавічы — пачынаецца развіццё станцыі, а разам з ёю і вёскі, расце насельніцтва. К канцу XIX стагоддзя ў Лунінцы жыло больш за тры тысячы чалавек. З архіўных запісаў даведваемся, што "Лунінец, с. (яло) Мін. пав. правасл. (аўных) 2 512, рк (рымскакатолікаў) 319, іуд. 293, муж. 1 674, жан. 1 493, аг. кольк. жых. 3 167".

Тыя архіўныя дакументы, што знойдзены на сённяшні дзень, сведчаць: Лунінецкая пошта пачалася са станцыі. Калі праз Лунінец пайшлі цягнікі з паштовымі вагонамі, з'явілася неабходнасць перагрузкі і прыёму пошты. У "Сборнике распоряжений по Главному Управлению почт и телеграфов" за 1885 год сказана: "...прызначыць з прычыны маючага адбыцца адкрыцця руху па Лунінец-Гомельскай чыгунцы: 1) аднаго памочніка загадчыка нізкага акладу; 2) трох раз'ядных чыноўнікаў вышэйшага акладу і 3) чатырох паштовых служыцеляў". Гэтыя служачыя абслугоўвалі паштовыя вагоны, што праходзілі праз Лунінец або прыходзілі на канцавую станцыю — у Лунінец. У гэтым жа зборніку за 1886 год Лунінец упамінаецца як станцыя для прыёму і выдачы пошты: "З нагоды адкрыцця Лунінец-Гомельскай чыгункі ад станцыі Лунінец (Вільна-Ровенскай дарогі) да станцыі Гомель (Лібава-Роменскай дарогі) і ўстанаўленнем перавозкі па ёй пошт... даручаю паштова-тэлеграфным і паштовым установам простую пісьмовую і бандэрольную карэспандэнцыю і перыядычныя выданні, адрасаваныя на станцыі азначанай дарогі, а менавіта: "Лунінец...". Са сказанага вынікае, што ў 1886 годзе на Лунінецкай станцыі ішоў інтэнсіўны паштовы абмен паміж паштовымі вагонамі. А для захоўвання абменнай пошты быў узведзены будынак недалёка ад станцыі, у якім пазней размясцілася гарадская пошта. З іншых дакументаў таго часу даведваемся, што паштовая станцыя Лунінец значыцца ў "Почтовом дорожнике Российской империи" за 1888 год у маршруце № 18 ад Брэст-Літоўска да Рузы.




У адным з архіўных дакументаў, знойдзеных некалькі гадоў назад, сказана, што паштовае аддзяленне ў вёсцы Лунінец адкрыта ў лепені 1887 года і што ў лістападзе 1888 года гэта паштовае аддзяленне пераўтворана ў паштова-тэлеграфную кантору. Такім чынам Лунінец быў уключаны ў адзіную расійскую тэлеграфную сетку, што дало магчымасць жыхарам да таго часу ўжо буйной вёскі пасылаць тэлеграмы ва ўсе куткі імперыі. Гэта пацвярджаецца данымі з "Почтово-Телеграфного журнала" за 1888 год.




На пачатку XX стагоддзя "тэлеграфнае дзеянне" — паводле тагачаснага вызначэння — было не толькі на Лунінецкай гарадской паштова-тэлеграфнай канторы. Яшчэ раней тэлеграфны апарат быў устаноўлены на станцыі, і было гэта ў гады адкрыцця руху паяздоў праз Лунінец. Гэты станцыйны тэлеграф належаў Палескім чыгункам. Тут трэба патлумачыць, якія лініі чыгунак адносіліся да Палескіх. Гэта ўчастак Лунінец — Баранавічы — Ліда і ўчастак Гомель — Лунінец — Брэст. На вакзале Лунінца працавала невялікае паштовае аддзяленне, дзе для гашэння карэспандэнцыі выкарыстоўвалі авальны штэмпель з надпісам "Лунинецъ-Вокзалъ". Такія вакзальныя штэмпелі былі ўведзены ў карыстанне Цыркулярам № 9 у лютым 1903 года.




У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў станцыя Лунінец лічылася буйным чыгуначным вузлом, а вакзал, як усе падобнага класа, меў не толькі паштовае аддзяленне, але і буфет. У 1916 годзе вакзальнае паштовае аддзяленне было пераўтворана ў чыгуначнае паштовае аддзяленне станцыі Лунінец Палескіх чыгунак. У той час Лунінецкай поштай выкарыстоўвалася некалькі відаў паштовых штэмпеляў, яны вызначаліся літарнымі індэксамі, памерам і розным напісаннем — "Минская губерния, Лунинец". Для заказных пісьмаў пошта выкарыстоўвала спецыяльную наклейку з чырвонай вялікай літарай "З" і чорным надпісам "Лунинец" у чырвонай рамцы.

Гісторыя Лунінецкай пошты непарыўна звязана з гісторыяй вёскі Лунінец, а потым горада Лунінец, з яго развіццём і ростам.

**Леў КОЛАСАЎ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 987. Падпісана да друку 14.7.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**